ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (74) май 2017 год

CATHOLICNEWS.BY

# Апостальскі нунцый наведаў Віцебскую дыяцэзію

Матэрыялы пра візіт Апостальскага нунцыя ў Віцебскую дыяцэзію чытайце на старонках 2, 3 і 7

## 25 гадоў манаскага жыцця:

### інтэрв'ю з біскупам Аляксандрам Яшэўскім SDB




## Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2017 года!

**Кошт падпіскі:**
на месяц – **90 капеек**,
на 3 месяцы – **2 рублі 70 капеек**,
на 6 месяцаў – **5 рублёў 40 капеек**.
Зрабіць гэта можна
ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!
Падпісваючыся на нашу газету,
Вы дапамагаеце нам абвяшчаць
Евангелле, расказваць людзям
пра Хрыста і яго Касцёл.**

**Больш навінаў пра каталіцкае жыццё
ў дыяцэзіі чытайце на *catholicnews.by***

## Што думае ксёндз пра войска?



# Апостальскі нунцый наведаў санктуарый у Шуміліне





**Галоўная Імша адбылася а 12-й гадзіне 13 мая, яе ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр. Самі ж урачыстасці распачаліся ў Шуміліне на дзень раней, 12 мая, і працягваліся ўсю ноч.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Каб сустрэць пасланніка Папы, вернікі на чале з біскупам Алегам Буткевічам выйшлі да галоўнай брамы. Арцыбіскупу ўручылі хлеб, вельмі цёплыя словы прамовілі да яго дзеці парафіі.

Пасля ўрачыстага ўваходу ў храм арцыбіскуп Габар Пінтэр прывітаў вернікаў. Сваю прамову ён распачаў словамі апостала Паўла: “Ласка вам і супакой ад Бога Айца нашага і Пана Езуса Хрыста”. Нунцый адзначыў, што Папа Францішак зараз знаходзіцца ў Фацімскім санктуарыі Маці Божай, а ён сам таксама прабывае ў Фацімскім санктуарыі, толькі не ў Партугаліі, а на Віцебшчыне. Дарэчы, сваё прывітальнае слова і гамілію арцыбіскуп Габар Пінтэр прамовіў на беларускай мове.

Біскуп Алег Буткевіч у сваім прывітальным слове ўзгадаў, што культ Маці Божай Фацімскай найбольш пашырыўся пры пантыфікаце Яна Паўла ІІ, які лічыў, што выжыў падчас замаху на яго, каторы быў здзейснены 13 мая 1981 года, дзякуючы заступніцтву Маці Божай Фацімскай. Іерарх узгадаў таксама, што першы фэст, прысвечаны ўшанаванню Маці Божай з Фацімы, адбыўся 13 мая 2000 года. Дарэчы, у гэты дзень 17 гадоў таму віцебскі ардынарый прыняў святарскае пасвячэнне.

На пачатку сваёй гаміліі арцыбіскуп Габар Пінтэр выказаў радасць з нагоды свайго знаходжання тут, у Шуміліне, падчас гэтых урачыстасцей. Ён адзначыў, што пакора, паслухмянасць Марыі можа быць прыкладам для ўсіх нас. Мы можам задаць сабе пытанне, адзначыў нунцый: чаму Бог часта не выбірае для свайго служэння багатых і магутных, а бедных і слабых? Бо гэтыя людзі багатыя на веру і на любоў да Бога, да сваіх бліжніх.

Дух Святы перамяніў жыццё Марыі ў той момант, калі яна адказала Богу “Так, няхай мне станецца паводле слова Твайго”. І так Дух можа перамяніць жыццё любога чалавека, умацаваць яго, зрабіць адважным. І чалавек зможа тады здзейсніць тое, што раней яму здавалася немагчымым. Мы павінны ўмець распазнаць, што ад нас хоча Бог, і дзейнічаць згодна з Яго воляй. Прадстаўнік Папы ўзгадаў, што менавіта ў гэты момант Папа Францішак далучае Жасінту і Францішка, пастушкоў з Фацімы, да ліку святых.

Сваю гамілію арцыбіскуп скончыў заклікам да вернікаў давяраць Марыі, Божай Маці, браць з Яе прыклад, бо Яна не пакідае тых, хто верыць у Ее Сына Езуса Хрыста.

Напрыканцы Імшы архімандрыт Сяргей Гаек падзякаваў Апостальскаму нунцыю за гэты візіт і ад імя грэка-католікаў падараваў яму ікону Маці Божай Фацімскай. Пасланніка Папы Францішка прывітала і намеснік кіраўніка Шумілінскага раёна Ірына Шалахава, якая прысутнічала на ўрачыстасці.

Затым арцыбіскуп удзяліў ад імя Папы Францішка апостальскае блаславенне, пасля чаго адбылася ружанцовая працэсія вакол касцёла, у якой прынялі ўдзел святары і вернікі. Падчас гэтай працэсіі была адмоўлена чацвёртая частка ружанца.

На заканчэнне ўрачыстасці біскуп Алег Буткевіч выказаў падзяку ўсім прысутным: Апостальскаму нунцыю, святарам, сёстрам законным, пілігрымам, хору з касцёла святой Барбары ў Віцебску, а таксама тым, хто рыхтаваў гэтае свята, у тым ліку і абед для гасцей. А яшчэ біскуп падзякаваў Богу за добрае надвор’е, якое ёсць знакам Божай любові. Напрыканцы іерарх пажартаваў: добра, што ў гэты майскі дзень не было снегу.

Апостальскі нунцый у сваім слове адзначыў, што сённяшні дзень для яго мае асаблівае значэнне, бо год таму, 13 мая 2016-га, Папа Францішак прызначыў яго на працу ў Беларусі. Яшчэ высокі госць сказаў, што працаваў у шмат якіх краінах свету, але першы раз прымаў удзел у такой ружанцовай працэсіі. “Вось і арцыбіскуп можа нечаму ў вас павучыцца,” – адзначыў прадстаўнік Папы.

Пазней гасцей свята чакаў абед, які адбыўся на свежым паветры. А ў касцёле ў гэты час прайшло спатканне святароў Віцебскай дыяцэзіі, на якім прысутнічаў і Апостальскі нунцый. Дарэчы, гэта быў толькі першы дзень візіту ў Віцебскую дыяцэзію, каторы працягнецца да панядзелка – да 15 мая.

А пасля абеду гасцям паказалі адмысловую забаўляльную праграму, падчас якой дзеці з Шуміліна прадэманстравалі сцэнку пра Фацімскія аб’яўленні. Дзеці з лынтупскай парафіі паказалі сваё майстэрства ў танцах, а скончылася праграма выступам гурта Laudans і агульным фотаздымкам разам з біскупам Алегам Буткевічам і Апостальскім нунцыем Габарам Пінтэрам.



## Пасланне біскупа Віцебскага Алега Буткевіча з нагоды Перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у Віцебскай дыяцэзіі

**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце, дарагія дыяцэзіяне!**

Сёлета Каталіцкі Касцёл адзначае 100-годдзе аб'яўленняў Божай Маці ў Фаціме. Як перадае гісторыя, у перыяд з 13 мая па 13 кастрычніка 1917 года ў невялікай мясцовасці Cova da Iria, што прыблізна за два кіламетры ад Фацімы, раз на месяц Найсвяцейшая Дзева аб'яўлялася тром партугальскім дзецям: Луцыі, Францішку і Жасінце. Падчас гэтых візіяў Багародзіца папярэджвала свет пра наступствы бязбожнага жыцця і заахвочвала да малітвы, пакаяння і навяртання, каб гэтых наступстваў пазбегнуць.

Сёння, праз сто гадоў пасля тых падзей, мы можам сцвердзіць, наколькі важным было гэтае пасланне для свету, і наколькі важным яно застаецца і па сённяшні дзень. Бо і цяпер актуальным з'яўляецца заклік да малітвы і пакаяння дзеля таго, каб пазбегнуць пакарання, якое можа наклікаць на сябе сучасны свет праз людскі грэх і злачынствы, што няспынна здзяйсняюцца.

Мы як вернікі не можам заставацца ўбаку ад заклікаў Багародзіцы, сэнс якіх у тым, каб нашае жыццё адпавядала веры, якую мы вызнаём, у выкананні Божага Слова, перададзенага нам у Евангеллі. Бо, па словах Маці Божай Ружанцовай, як Яна сябе называла падчас аб'яўленняў фацімскім дзецям, нашае асабістае навяртанне, нашая частая малітва, асабліва на ружанцы, нашая еднасць з Богам – гэта той сродак, які сёння ратуе свет, вызваляе людскія душы ад вечнага пакарання і з'яўляецца ўзнагародай за грахі і знявагі, каторымі сучасны свет абражае Бога і Беззаганнае Сэрца Марыі.

Усведамляючы існую сітуацыю ў свеце і будучы паслухмянымі заклiку Найсвяцейшай Дзевы, мы прагнем далучыцца да гэтай выратавальнай для нас асабіста і для ўсяго чалавецтва справы праз набажэнствы, звязаныя з перэгрынацыяй фігуры Маці Божай Фацімскай, якая распачалася пасля ўрачыстасцяў у Шуміліне 13 мая, прысвечаных 100-годдзю Фацімскіх аб'яўленняў. Гэтая перэгрынацыя ахопіць усе парафіі нашай дыяцэзіі і закончыцца 13 кастрычніка бягучага года ў Браслаўскім санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў. Трэба зазначыць, што фігура Маці Божай, якая наведае нашыя парафіі, у свой час была падараваная Віцебскай дыяцэзіі святой памяці кардыналам Казімірам Свёнтэкам і з'яўляецца ў пэўным сэнсе рэліквіяй, каторая спадарожнічае нашай дыяцэзіі ад пачатку яе існавання.

Заахвочваю ўсіх вас, дарагія браты і сёстры, да як мага больш актыўнага ўдзелу ў набажэнствах, звязаных з перагрынацыяй, каб такім чынам ушанаваць і праславіць Усемагутнага Бога, Які не пакідае сваіх дзяцей, але няспынна клапоціцца пра нас праз апеку Найсвяцейшай Маці Свайго Сына. Няхай супольная малітва ў парафіяльных касцёлах і капліцах праз наведванне Фацімскай фігуры Багародзіцы абудзіць нашу веру і сапраўды стане сродкам, які дапаможа змяніць нашае жыццё, а для свету выпрасіць шматлікія Божыя ласкі!

На час Юбілейнага святкавання і звязанай з ім перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай ад усяго сэрца блаславаляю!

**+Алег Буткевіч, Біскуп Віцебскі**



# Апостальскі нунцый наведаў "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі

**У межах свайго візіту ў Віцебскую дыяцэзію Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр наведаў дыяцэзіяльны "Карытас".**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*

Дырэктар гэтай дабрачыннай арганізацыі ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч распавёў пра напрамкі дзейнасці ўстановы. Віцебскі "Карытас" арганізуе працу з інвалідамі, самотнымі людзьмі, актыўна вядзецца праца па аздараўленні дзяцей падчас летняга адпачынку.

Ватыканскі дыпламат спаткаўся з падапечнымі віцебскага "Карытас", якія заспявалі іерарху песню "Простыя словы". Арцыбіскуп Габар Пінтэр таксама быў запрошаны на салодкі стол і ў сяброўскай атмасферы пагутарыў з клубам сеньёраў, якім апякуецца "Карытас".

Ксёндз Андрэй Аніскевіч падзякаваў сваёй даўняй марай: адкрыць пры "Карытас" школу танцаў для інвалідаў. Для гэтых мэтаў ужо закуплена неабходнае абсталяванне і рыхтуецца зала. Арцыбіскуп Габар Пінтэр удзяліў прысутным сваё пастырскае благаслаўленне.



## Удакладненне

У №3(72) на старонцы 5 у матэрыяле «Біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію Маці Божай Шкаплернай у Ёдах» была дапушчана недакладнасць. Было напісана, што першую капліцу тут пабудавалі да вайны і не паспелі асвяціць.

Насамрэч капліца ў Ёдах ужо дзейнічала ў палацы Патоцкіх, а пабудавалі і не паспелі асвяціць **касцёл**, а не капліцу. Гэты касцёл і быў разабраны пад школу-інтэрнат. Прыносім свае прабачэнні чытачам.

# Усе называюць яго проста – айцец Лех

**Сёння я хачу расказаць пра чалавека, які аказаў вялікі ўплыў на маю веру, пра святара, якога хочацца называць "айцом" і ніяк інакш, да якога бесперапынна ідуць людзі па дапамогу, параду ці благаславенне.**

**Аксана Нядвецкая**



Манах-францішканін, каторы ходзіць басанож незалежна ад надвор'я, пастаянна пра нешта забываецца ці нешта губляе, але валодае такім даверам да Пана Бога, што ўсё ўспамінаецца, знаходзіцца і атрымліваецца. Служыць гэты незвычайны святар на маёй малой радзіме – у пасёлку Івянец Мінскай вобласці. Поўнае імя яго – айцец Лех Марыа Баханэк, але ўсе называюць яго проста – айцец Лех.

*Trzeba choć jeden raz*
*Przejść po trawie boso,*
*Ze strumienia wodę pić.*
*Kto nie poznał tej radości,*
*Nie wie, co to znaczy żyć...*

*Спеў рэлігійны*

Упершыню я сустрэлася з айцом Лехам летам 2000 года. Тады мне было 15, мы з сястрой рыхтаваліся да бежмавання пры касцёле святога Аляксея ў Івянцы. З нашай маладзевай групай працаваў малады ксёндз, расказваў многа карысных і цікавых гісторый. Пасля адных заняткаў нас папрасілі затрымацца: новы пробашч парафіі святога Міхала Арханёла хацеў з намі пазнаёміцца.

Добра памятаю той момант, калі насупраць прысеў той самы "новы пробашч" – чалавек сярэдняга ўзросту ў шэрым манаскім адзенні. Сказаў некалькі слоў пра сябе, пра тое, што нарадзіўся ў Польшчы, працаваў дагэтуль у Санкт-Пецярбурзе, затым яшчэ штосьці пра сталовую для бяздомных, крыху пра свае планы і напрыканцы запрасіў на прагляд фільма пра святога Францішка.

Хацелася дамоў. Мы разышліся, кожны са сваімі думкамі, сваімі ўражаннямі. Ніхто з нас нават уявіць сабе не мог, які магутны механізм быў запушчаны падчас той сустрэчы.

Зараз зраблю невялікае адступленне і раскажу, як жылі мы, падлеткі з мястэчка Івянец, да сустрэчы з айцом Лехам і што перамянілася ў нашым жыцці пасля яе.

Я нарадзілася ў 1985 годзе. Хрысцілі мяне, як і многіх маіх сяброў, не ў Івянцы (абодва нашыя касцёлы былі зачыненыя ў той час), а ў Рубяжэвічах, у касцёле святога Юзафа. У той перыяд гэта быў адзіны дзейны касцёл у нашай мясцовасці. На пачатку 1990-х івянецкія святыні вярнулі католікам, але цэлае пакаленне вернікаў – пакаленне маіх бацькоў – для касцёла было амаль страчанае.

Я не буду абагульняць (не маю маральнага права гаварыць пра іншых) і некалькі слоў скажу пра сваю веру да лета 2000-га года. Мае бабуля і дзядуля па маці былі вернікамі, незалежна ад "настрою ў грамадстве" святкавалі каталіцкія святы, хрысцілі дзяцей і, па магчымасці, наведвалі касцёл (найбліжэйшы, нагадаю, быў за 30 км ад Івянца). Мае бацькі бралі шлюб у касцёле, хрысцілі нас с сястрой (гэта трэба было рабіць патаемна, бо мама атрымлівала вышэйшую адукацыю), таксама святкавалі каталіцкія святы, але ў касцёл, нават калі стала "можна", хадзілі рэдка.

Мы з сястрой прыступілі да Першай Камуніі (у сярэдзіне 90-х гэта адбывалася вельмі ўрачыста, можна сказаць, было свята для ўсяго пасёлка), хадзілі на заняткі рэлігіі, па святах і калі не было чым іншым заняцца хадзілі ў касцёл. Шчыра кажучы, жылі сваім жыццём, якое зрэдку перасякалася з жыццём касцельным. Памятаю сябе ў школьныя гады: верыла, што Бог ёсць, Ён дапаможа ў цяжкую хвіліну, малілася, калі было страшна, але касцёл, ксяндзы, Біблія, святыя – усё было якімсьці далёкім, незразумелым, чужым.

І вось надышло тое самае лета 2000-га года. Нам патэлефанавалі і прапанавалі прыступіць да сакраманту Канфірмацыі. Мы згадзіліся, і пачалася падрыхтоўка. Асабліва патрабавалі ведаць сем дароў Духа Святога, якія мы атрымаем падчас удзялення сакраманту, што, хачу сказаць, і адбылося ў маім жыцці. Не так хутка, не раптам, а паволі, паступова стала прыходзіць разуменне, развaжлівасць, пабожнасць і імкненне больш даведацца пра Бога, пра Касцёл, зразумець незразумелае і знайсці месца для Бога ў маім жыцці. І вось тым канкрэтным чалавекам, які дапамог знайсці адказы на шматлікія пытанні (а іх ва ўзросце 14–16 гадоў узнікае ой як многа!) і паставіць усё ж такі Пана Бога на належнае месца ў жыцці, стаў для мяне францішканін айцец Лех.

Пасля той першай сустрэчы, пра якую я пісала спачатку, айцец Лех прапанаваў паглядзець разам фільм "Брат Солнце, сестра Луна". І тут як пачалося!.. Мы палюбілі святога Францішка і францішканаў (аказваецца, гэты ордэн амаль 300 гадоў працаваў у Івянцы, а я нават не ведала, што быў такі святы), пачалі збірацца на касцельныя сустрэчы і сталі "моладдзю францішканскай". Затым былі паходы, канікулы з Богам, рэкалекцыі на прыродзе. Быў першы "Транзітус" у маім жыцці.

Далей – яшчэ больш. У Івянцы распачаўся рамонт касцёла, прайшла першая "Музычная майстэрня", знайшлі звон, адліты ў 1935 годзе і схаваны ў часе вайны. Затым Міждыяцэзіяльная сустрэча каталіцкай моладзі і "беларускі Сіднэй" 2008 года, Фестываль калядная песні, Парафіяда дзяцей і моладзі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У Івянцы з'явіліся свае каталіцкія скаўты, на тэрыторыі касцёла ўзніклі спартыўная, дзіцячая пляцоўка і трэнажорны комплекс пад адкрытым небам, была адчыненая кавярня "У францішканаў". Ужо некалькі гадоў існуе капліца Вячыстай Адарацыі, дзе вернікі парафіі змяняюць адно аднаго і вядуць бесперапынную малітву.

На гэтым я хачу спыніць пералік дасягненняў айца Леха і звярнуцца да яго асабіста, на што ніколі не хапала часу, рашучасці, усё ніяк не знаходзіўся адпаведны момант.

Айцец! Вы памятаеце нашыя першыя сустрэчы моладзі? Памятаеце, вядома. Як Вам удавалася так зачароўваць нас? Тэмы, якія абмяркоўваліся на сустрэчах, былі настолькі цікавымі і нетыповымі для нашага тагачаснага жыцця! Многія рэчы мы пачулі ўпершыню, бо дома, у школе і па тэлебачанні гаварылі не пра тое і не так. Вашыя пытанні не давалі нам спакою, хвалявалі доўгі час пасля сустрэчы. Вы верылі ў нас, ставіліся да нас як да дарослых, сур'ёзна і ўдумліва адказвалі на нашыя (часта яшчэ дзіцячыя) пытанні. Бывала, не давалі дакладнага адказу, замест яго – новыя пытанні, з якімі кожны павінен звярнуцца да сябе самога, звярнуцца сам. Вы заразілі нас любоўю да святога Францішка, пазнаёмілі са святой Кларай, з айцом Піа. Прывучылі чытаць Біблію, зноў і зноў адкрываць для сябе Божае Слова. Вы былі і застаецеся прыкладам сапраўднай веры, дабрыні і любові, старэйшым таварышам і мудрым дарадчыкам. Вы з намі ў цяжкія хвіліны і ў радасныя.

Я моцна люблю сустракаць Вас летам на дзіцячай пляцоўцы ля касцёла і (пакуль дзеці гуляюць з Трышай, Вашай вернай спадарожніцай) чуць ад Вас, што вось-вось адкрываецца "Карытас" ці будзе пастаўлены помнік ненароджаным дзецям. І я ўпэўніваюся, што рухавік ідэй яшчэ працуе, а айцец Лех застаецца айцом Лехам...

Калісьці даўно айцец Лех спяваў нам пад гітару польскую рэлігійную песню, словы з якой я выбрала эпіграфам для гэтага артыкула. Я не чула яе гадоў 15 ужо, дакладна не памятала слоў, але ідэі, заключаныя ў гэтым прыгожым спеве, прадумваліся мной і пражываліся ўвесь гэты час. Тады, на пачатку 2000-х, я сапраўды не ведала, co to znaczy żyć: што азначае гэта свабода і як ёю карыстацца, мне не даводзілася "стаяць над безданню і маліць аб дапамозе", тугі па Настаўніку таксама не было... Не скажу, што зараз так добра ўсё зразумела і ўсё ведаю, але ўпэўненасць у тым, што акрамя Пана, "już nie nasyci nic", нічога не задаволіць да канца і не будзе дасканалым, ужо прыйшла. І гэта ўпэўненасць, здаецца мне, перадалася ад айца Леха.



# “Малюся за цябе, Беларусь!”

**“Малюся за цябе, Беларусь!” – гэтымі словамі пачынаецца шырока вядомая песня, якая сапраўды стала гімнам каталіцкай моладзі. І спяваюць яе ў касцёлах, на сустрэчах, у пілігрымках. Яна ўвайшла ў рэпертуар вядомых выканаўцаў і гуртоў, уключана ў спеўнікі.**

■ **Казімір Біль**, *па даручэнні вернікаў Беразінскай парафіі*

Ідалёка не ўсе ведаюць, што аўтарам слоў і музыкі з 'яўляецца тады яшчэ навучэнец Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне Сяргей Бараўнёў. І мы, парафіяне касцёла Божага Цела з Беразінскага (Маладзечанскі дэканат), вельмі ганарымся, што менавіта ён ужо каля дзесяці гадоў з’яўляецца нашым ксяндзом, да нядаўняга часу пробашчам. А 13 красавіка сёлета кс. Сяргей за асаблівыя адзнакі і прызнаныя заслугі перад дыяцэзіяй у ліку найбольш выбітных святароў атрымаў прызнаЧэнне ганаровага каноніка! Такая падзея стала вельмі прыемнай навіной для ксяндза і сапраўдным святам для вернікаў.

Сёлета ў яго юбілей: роўна дваццаць гадоў таму, 19 траўня 1997 года, ён прыняў святарскае пасвячэнне. Цяжка ўявіць, колькі змог здзейсніць гэты таленавіты, вельмі творчы чалавек за гэты час! З дапамогай многіх людзей мы пастараліся прасачыць старонкі яго пастырскай дзейнасці (ксёндз Сяргей не вельмі ахвотна распавядае пра сябе).

Шлях служэння Богу ён выбраў яшчэ, калі быў вучнем Маладзечанскай САШМ №12 – адчуўся ўплыў сям’і: мама Галіна Казіміраўна, шчырая верніца, з дзяцінства вучыла сыноў Сяржу і Юру (зараз ксёндз ў Віцебскай дыяцэзіі) слову Божаму, садзейнічала, каб яны былі міністрантамі.

Лёсавызначальным для будучага святара стаў прыклад служэння Пану ксяндза Эдмунда, які пасля многіх гадоў духоўнага ліхалецця адраджаў каталіцкую парафію ў Маладзечне. Але пасля школы Сяргей не адразу зрабіў свой выбар: год працаваў слесарам-наладчыкам, год вучыўся ў політэхнічнай акадэміі і канчаткова зразумеў, што свой жыццёвы лёс звяжа са святарскім пакліканнем.

Пасля заканчэння семінарыі некаторы час ён быў вікарыем у Чырвоным касцёле, у Бабруйску, а праз два гады яго прызначылі ўжо пробашчам у Беразіно. Не раз маладому ксяндзу даводзілася адкрываць новыя парафіі: у Мар’інай Горцы, Уручы, Беніцы, Палачанах, Беразінскім. У двух апошніх населеных пунктах дзякуючы яго намаганням пабудаваныя новыя касцёлы. Пры іх праектаванні і будаўніцтве спатрэбіліся бясспрэчныя схільнасці архітэктара (нездарма вучыўся ў акадэміі), выключныя арганізатарскія здольнасці, уменне натхніць людзей словам і прыкладам. І наш касцёл прываблівае сваёй велічнасцю, дасканаласцю дойлідскіх знаходак, утульнасцю і прыгажосцю, як і тэрыторыя вакол яго.

Трэба адзначыць, што ў нашай мясцовасці католікаў няшмат, бо многія пры адсутнасці каталіцкай святыні пахрысцілі сваіх дзяцей у праваслаўе. Вось і атрымалася, што дзядулі і бабулі – католікі, а іх малодшыя пакаленні наведваюць (калі гэта адбываецца) царкву. Але, нягледзячы на гэта, падчас нядзельнай Імшы і святаў у касцёл штогод прыходзіць і прыязджае з суседніх вёсак усё больш людзей, каб паслухаць у тым ліку мудрыя, шчырыя казанні, якія сапраўды выхоўваюць душу чалавека.

Ксёндз Сяргей стаў ініцыятарам і разам з Андрэем Лугіным, лідарам гурта “Laudans”, арганізатарам фестывалю духоўнай музыкі “Laudato Si”, які з вялікім поспехам праходзіў тут, у Беразінскім, на працягу трох жнівеньскіх дзён мінулага года. Прычым у музычных спаборніцтвах бралі ўдзел салісты-вакалісты, музыкі і калектывы ўсіх хрысціянскіх канфесій з розных куткоў Беларусі. Гэта прынцыповая пазіцыя нашага святара – аб’ядноўваць вернікаў розных веравызнанняў.

Фестываль меў вялікі поспех, і ўзнёслыя, добрыя водгукі ўдзельнікаў, шматлікіх гасцей і, вядома, мясцовых жыхароў. Усе яны адзначалі высокае майстэрства і цудоўны рэпертуар самадзейных і прафесійных артыстаў, што кранаў душу і сэрца. Вырашана гэты фестываль зрабіць традыцыйным. І, несумненна, з гэтай няпростай задачай ксёндз-канонік справіцца на выдатна!

Любоў да Беларусі вельмі яскрава праяўляецца падчас шматлікіх пілігрымак, якія некалькі разоў на год ладзіць ксёндз Сяргей для сваіх вернікаў, маючы на мэце далучыць нас да багатай духоўнай спадчыны Бацькаўшчыны, пазнаёміць з яе святынямі, гісторыяй, прыродай, маляўнічымі краявідамі, знакамітымі людзьмі. Падчас кожнай пілігрымкі праводзяцца супольныя малітвы, узаемна карысныя сустрэчы са святарамі, цэлебруюцца Імшы. Незабыўныя ўражанні засталіся ад наведвання Росіцы, Пастаў, Мядзельскай Кальварыі, Свіры, Смаргоні, Залесся, Гервят, Крэва, Барун, Гальшан, Багданава, Вішнева, Валожына і многіх іншых месцаў. Рыхтуюцца новыя маршруты.

“Малюся за цябе, Беларусь, за тваіх братоў і сыноў, каб была паміж намі любоў...” – напісаў некалі клерык Сяргей Бараўнёў. А сёння і заўсёды мы молімся за Вас, паважаны ксёндз-канонік, і жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, спаўнення ўсіх задуманых спраў!



**Ксёндз Сяргей Бараўнёў разам з удзельнікамі фестывалю Laudato Si. Жнівень 2016 года.** *Фота Змітра Лупача*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Па Божай волі як у швейцарскім банку

**Марына збіралася ў санаторый. Выязджаць трэба было заўтра, таму мела шмат клопатаў.**

■ **Нэля Лось**, *м. Лынтупы*

Жыла яна адна ў двухпакаёвай кватэры. Спачатку ніяк не магла дагадзіць маці ў выбары прэтэндэнтаў на руку і сэрца, а калі тая памерла, была ўжо ў тым узросце, што сама ні з кім не магла паладзіць. Ды яшчэ і з дзвюма сваімі сёстрамі рассварыліся ўшчэнт з-за спадкаў, што пакінула ёй маці. А спадкі былі немалыя: залатыя каронкі і скіўцы ды з дзясятак залатых манет. Усё "багацце" ляжала ў старой шкарпэтцы на дне шуфляды ў серванце.

Выязджаючы з кватэры на дваццаць дзён, Марына не ведала, куды надзейна схаваць каштоўнасці. Рашэнне прыйшло нечакана, калі даставала з антрэсолі абутак у дарогу. Яна працавала ў абутковым магазіне і ўся паліца была застаўленая боцікамі і пантофлямі. Вось у старэнькі бот, у самы мысок, і запхнула яна шкарпэтку.

Адпачынак прайшоў выдатна. Дамоў вярталася ў добрым настроі, перапоўненая станоўчымі эмоцыямі і прыемнымі ўспамінамі. Да канца водпуску заставаліся яшчэ тры дні, і жанчына ўзялася за генеральнае прыбіранне кватэры. Дабралася і да антрэсолі, павыкідала на сметнік паношаны абутак, у тым ліку і боты з "залатым запасам". Пра тое, што перахавала каштоўнасці, Марына зусім забылася. А тут яшчэ пазваніў Алесь, з якім яна пазнаёмілася ў санаторыі. Мужчына прыемны, гаваркі, і Марына была не супраць працягу знаёмства. Ёй захацелася ўпрыгожыць сябе залатым ланцужком. Даўно збіралася патраціць на гэта залатоўку, але ўсё рукі не даходзілі. Які ж быў жах, калі палезла ў шуфляду і, нічога там не знайшоўшы, зразумела, што ўсё выкінула са старымі рэчамі вон… Нешта знайсці было немагчыма, бо смецце рэгулярна вывозілі на сметнік за горад. Прыгнечаная жанчына не магла нават плакаць. Успомнілася ўсё: як маці нікому з дачок нічога не дала з гэтых каштоўнасцей, усё трымала на "чорны дзень", як сама пасварылася праз іх з сёстрамі і, нарэшце, зусім паідыёцку ўсё страціла.

Надышоў Вялікі пост. Марына хадзіла на працу, старалася часцей наведваць касцёл, не прапускала нядзельную Імшу. А рэкалекцыі пакінулі ў яе душы незабыўнае ўражанне. Святар, быццам адчуваючы яе настрой, казаў пра збаўчую сілу Крыві Хрыстовай, што нясе дапамогу ў хвіліны расчараванняў, нядач і духоўнай цемры. Што толькі ў Божай волі, любові наша суцяшэнне, а не ў рэчах саміх ці іншых людзях. Так шчыра, як у гэты раз, яна спавядалася, можа, толькі ў дзяцінстве. Са слязамі прасіла дапамогі ад падманнага клопату пра свой дабрабыт, які прывёў яе да аддалення ад родных. Спроба схаладжваць асабісты лёс аказалася няўдалай: Алесь быў жанатым аматарам санаторных прыгод. А яшчэ прасіла адвагі зрабіць першы крок да прымірэння з сёстрамі, шкадавала, што ў яе жыцці шмат памылак, якія неабходна выпраўляць.

Вербная Нядзеля выдалася цёплай і сонечнай. Квітнелі align="left"рознакаляровыя крокусы, на пухнатых ад жоўтых коцікаў вербах звінелі пчолы. Марына нетаропка ішла з касцёла, а потым машынальна ступіла з тратуара на сцежку і спусцілася да ракі. У задуменні стаяла над вадой. І тут звярнула ўвагу на дзвюх жанчын у неахайнай вопратцы, што сядзелі на беразе над кучай старых сумак і абутку, з якіх выдзіралі маланкі і адразалі халявы. Раптам Марына ўбачыла на гэтай кучы свой стаптаны бот. Не верачы сваім вачам, падышла бліжэй і схапіла яго. Жанчыны пачалі лаяцца. Яна выцягнула з кішэні некалькі рублёў і падала ім, тыя супакоіліся. Згуба вярнулася амаль праз тры месяцы, калі гаспадыня ўжо страціла надзею адшукаць яе.

Узносячы падзякі Пану Богу, Найсвяцейшай Панне Марыі і святому Антонію, Марына крочыла па вуліцы. Дома рашуча набрала нумары тэлефонаў сясцёр, павіншавала іх са святам і папрасіла прыйсці ў кавярню каля ювелірнай майстэрні. Прыйшла толькі старэйшая сястра. Жанчыны доўга размаўлялі, трымаючыся за рукі і выціраючы слёзы радасці. На другі дзень заказалі ў майстэрні пяць залатых ланцужкоў з крыжыкамі, для сябе і дзяцей сястры. Пазней самы прыгожы ланцужок павесілі да абраза Маці Божай у касцёле. Малодшая сястра таксама атрымала некалькі залатых манетак. На Вялікдзень у сям'і запанавала згода і паразуменне.

Ніколі не позна шукаць у сваім жыцці любоў, дабро і справядлівасць. Гэта і будзе пошукам Езуса Уваскрослага, прысутнага ў сэрцах адкрытых і неабыякавых.

# Сустрэча на Звеставанне

**Думаю, што гэтая сустрэча, якая адбылася 25 сакавіка, ва ўрачыстасць Звеставання Пана, не была выпадковай.**

■ **Алена Пажога**

Ранішнім аўтобусам я прыехала ў райцэнтр. У касцёл ісці было яшчэ вельмі рана, таму ўладкавалася на аўтастанцыі, разгарнула кнігу, якую прыхапіла з сабой. У зале было малалюдна. Праз некалькі хвілін да мяне падышла сціпла апранутая жанчына гадоў 35-37-мі, даручыла мне сваю сумку. Вярнуўшыся, даверліва сказала: "Перакусіла крыху ў павільёнчыку. З дому выехала раненька. Еду да ўнука". На маё здзіўленне, што бабуля такая маладая, жанчына патлумачыла: "Дачка ў 17 гадоў нарадзіла. У панядзелак трэба забіраць з радзільні".

Далей маладая бабуля расказала, што едзе дапамагчы 19-гадоваму зяцю прыбраць у хаце, падрыхтаваць усё для выпіскі малога. Паведаміла, што дома ў яе дзве дачкі-школьніцы, а старэйшая пасля дзевяці класаў паступіла вучыцца, але правучылася толькі год і зацяжарыла. Прыехала дадому і спытала ў маці, ці згодная яна стаць бабуляй. Жанчына працягвала свой аповед: "А што ж мне заставалася, калі так здарылася? Як жа я дачку на аборт адпраўлю? Сама абортаў не рабіла. Тры дачкі ў мяне. А вось маці мая была супраць. Павезла ўнучку на аборт, але дзяўчына ўцякла з палiклінікі. І малайчына, што ўцякла. Выгадуем малога. Зяць трактарыстам працуе. Заробкі слабыя, але можна прадукты браць у краме. Жыллё ім далі ў вёсцы. Хай жывуць. Вось пару дзён дапамагу, навучу купаць дзіцяці і паеду дамоў. Хай самі спраўляюцца".

Я ўхваліла іх рашэнне. Радасна стала на сэрцы, што ёсць людзі са светлай душой, якія выбіраюць жыццё. І радасна, што недарэмна гучаць словы малітвы ў абарону ненароджанага дзіцяці: "Прашу, дай яго бацькам любоў і адвагу, каб яны не забівалі сваё дзіця, а пакінулі яму жыццё, якое Ты Сам гэтаму дзіцяці прадвызначыў. Амэн".

## Чый касцёл?

Ксёндз перад Вялікаднем наведваў сталых парафіян, спавядаў іх. У адной дружнай і пабожнай сям'і пачуў ад гаспадара пытанне: "Як там справы, ксёндзпробашч, у Вашым касцёле?" Здзіўлены святар адказаў: "Але ж, напэўна, гэта наш касцёл, спадар Анатоль, ці я нечага не разумею?"

## "Шчодрая" ўнучка

Малая Стэфачка з апетытам есць кавалак кавуна, аж шчочкі блішчаць ад соку. Бабуля пытае ў дзяўчынкі: "А ці пачастуеш ты мяне, маё сонейка?" "Зараз, толькі адкушу пабольш. Мама вучыла, што Боженька казаў дзяліцца апошнім кавалачкам!"

## Незапалены светач

Ксёндз не ідзе прапускаць нябожчыцу на могілкі: у касцёл не хадзіла, ксяндза не прымала, касцёлу ў патрэбах не дапамагала. Жыла як хацела, свядома адмаўляючыся ад духоўнага жыцця, казала, што Бога мае ў душы. Пасля пахавання была ахвяравана і адслужана Імша за памерлую, але яе родныя пакрыўдзіліся на святара. А ці ёсць за што злавацца?

Пакуль нам адпушчаны час на зямлі, трэба памятаць, што ён небясконцы. Мы не ведаем, калі прыйдзе Жаніх і пакліча на вяселле, таму свае светачы трэба трымаць запраўленымі. Так рабілі разумныя панны і ўвайшлі на вяселле з Ім. Нядбайныя з пагаслымі светачамі засталіся перад зачыненымі дзвярыма ў цемры (Мц, 25, 1-13).

## "Дабрыня" падвяла

Тры сталыя жанчыны ідуць з касцёла і апавядаюць пра добрыя справы, зробленыя імі на працягу Вялікага посту. На гэту тэму святар гутарыў з парафіянамі падчас навукі. На вялікай хуткасці іх абганяе машына. Малодшая злосна кажа: "І куды прэ? Каб ты галаву скруціў!" Старэйшая падтрымала яе: "Вось каго трэба правой пазбавіць гады на тры!" А зусім старэнькая бабулька цяжка ўздыхнула і вымавіла: "Каб жа цябе твой Анёл Ахоўнік шчасліва дадому давёў".

Раптам машына спыняецца і малады хлопец-кіроўца крычыць: "Бабулечка, я так спяшаўся цябе спаткаць!" Кабета паважна ўладкоўваецца ў салоне і кажа ўнуку: "А іх не бяры. Няхай на споведзь сходзяць, добрыя такія!"

*Нэля Лось, м. Лынтупы*

# Як стаць каталічкай?

*"Добрый день! Хотела бы принять католическую веру. К кому мне обратиться? Живу в Витебске. Спасибо!"*

**На пытанне адказвае ксёндз Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай дыяцэзіі:**

– Каб стаць каталічкай, неабходна наведаць найбліжэйшую парафію ў раёне Вашага пражывання і сустрэцца з пробашчам. У гутарцы з ім трэба распавесці пра Вашыя матывы і жыццёвае асяроддзе. Калі Вы неахрышчаная, то Вам трэба будзе падрыхтавацца да сакраманту Хросту і іншых сакрамантаў. Калі Вы хочаце перайсці з нейкай іншай хрысціянскай канфесіі ў каталіцтва, то тут пэўнага спецыяльнага абраду не існуе. Дастаткова публічнага вызнання каталіцкай веры і гатоўнасці падпарадкавацца духоўнай уладзе Касцёла ў рэлігійным жыцці. У любым выпадку неабходна прайсці катэхізацыю, працягласць якой і тэматыку вызначыць пробашч. Вось спіс дзейных каталіцкіх парафій Віцебска:

**Катэдральная парафія Езуса Міласэрнага**
*г. Віцебск, вул. Воінаўінтэрнацыяналістаў, 28.*
Тэл. +375(212)616860
***Пробашч***
***кс. Андрэй Аніскевіч***

**Парафія святой Барбары**
*г. Віцебск, вул. Ленінградская, 27.*
Тэл. 8 (0212) 35-32-61
***Пробашч***
***а. Кшыштаф Коцʼян OP***

**Парафія святога Антонія**
*г. Віцебск, вул. Гагарына, 46А.*
Тэл. +375(33)6196691
***Пробашч***
***кс. Вячаслаў Барок***

**Парафія Святога Духа**
*г. Віцебск, вул. Чкалава, 5А.*
Тэл. +375(212)620311
***Пробашч***
***кс. Андрэй Вашчук SDS***

**Парафія святога Уладзіслава**
*г. Віцебск, вул. Генерала Іваноўскага, 5.*
Тэл. +375295105172
***Пробашч***
***кс. Віктар Місевіч***

**Грэка-каталіцкая парафія Уваскрасення Хрыстовага**
*г. Віцебск, вул. Войкава 6А.*
Тэл. +375 (29) 6752997
***а. Зміцер Грышан***

# Апостальскі нунцый сустрэўся з намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама

**Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр сустрэўся з намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімірам Пятровічам Пеніным. Сустрэча адбылася ў межах візіту папскага легата ў Віцебскую дыяцэзію.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*



Высокага госця суправаджаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Арцыбіскуп Габар Пінтэр падкрэсліў, што яму прыемна ўсведамляць, што ў Беларусі добра складваюцца двухбаковыя адносіны паміж Каталіцкім Касцёлам і свецкімі ўладамі. Ён таксама пацікавіўся актуальным станам рэчаў у Віцебскай вобласці і ў самым Віцебску. Уладзімір Пятровіч Пенін падкрэсліў пазітыўны характар адносін паміж Каталіцкім Касцёлам і ўладамі ў Беларусі.

Напрыканцы сустрэчы бакі абмяняліся падарункамі. Намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама падарыў Апостальскаму нунцыю памятны знак Віцебска. Нунцый перадаў праз намесніка старшыні аблвыканкама кіраўніку вобласці Мікалаю Мікалаевічу Шарстнёву, які не змог па аб'ектыўных прычынах сам прысутнічаць на спатканні, памятны медаль ад Святога Айца Папы Францішка.

# Апостальскі нунцый у Беларусі сустрэўся з архіепіскапам Віцебскім і Аршанскім Дзімітрыем



**Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр сустрэўся з архіепіскапам Віцебскім і Аршанскім Дзімітрыем. Ватыканскага іерарха суправаджаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*

Падчас сустрэчы бакоў абмяркоўваліся тэалагічныя тэмы, пытанне адзінства і дыялогу паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой. Была абмеркаваная сустрэча Папы Францішка і Патрыярха Кірыла ў Гаване. Арцыбіскуп Габар Пінтэр падкрэсліў, што вельмі задаволены тым, што ў Беларусі існуюць рэальныя добрасуседскія адносіны паміж дзвюма канфесіямі.

Архіепіскап Дзімітрый пацікавіўся станам рэчаў у Заходняй Еўропе і распавёў пра ганенні, якія перажыла Праваслаўная Царква ў перыяд атэістычнага пераследу. Бакі таксама абмяняліся падарункамі.

Апостальскі нунцый перадаў архіепіскапу Дзімітрыю ружанец ад святога айца Папы Францішка. Праваслаўны іерарх падарыў нунцыю ікону Святой Тройцы і пацеркі.

# ЕХАЦЬ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ? ЕХАЦЬ НА РОВАРЫ?

## ПАШЫРЭННЕ СІНАНІМІЧНАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Апошнім часам у друкаваных і электронных сродках масавай інфармацыі, а таксама ў штодзённай вуснай камунікацыі ўсё часцей ужываецца назоўнік *ровар*.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Раней гэтая лексема была пашыраная хіба што на тэрыторыі Заходняй Беларусі, трактавалася як рэгіянальная, дыялектная: *Згадваюцца даўнія часы, калі мы былі малымі мальцамі (школьнікамі) і ездзілі на **роварах** на возера* (Вольнае Глыбокае, 31.07.14); *Беларус за паўтара года аб'ездзе паўсвету на **ровары*** (Наша ніва, 29.04.15). Літаратурны ж статус меў агульнасавецкі ўзор *веласіпед*. Але напрыканцы 80-ых гадоў XX стагоддзя сітуацыя пачала паступова змяняцца: слова **ровар** стала імкліва пашырацца ва ўжыванні. Сёння мы маем у літаратурнай мове фактычна два раўназначныя сінонімы – **ровар** і *веласіпед*. Гэта значыць, што праз павелічэнне частотнасці выкарыстання назоўніка **ровар** пашырыліся і сінанімічныя магчымасці нашай мовы. Нярэдка ў межах аднаго кантэксту ўжываюцца абедзве названыя лексемы. Праілюструем гэта на прыкладах з публіцыстычных тэкстаў: *Велатаксі (таксі-**ровар**) нярэдка называюць удасканаленымі рыкшамі* (Наша Ніва. 15.06.2011); *Скралі новы **веласіпед** коштам каля мільёна рублёў у 38-гадовай медсястры. А ў Баранавічах жанчына пакінула свой **ровар** каля крамы... выйшла з пакупкамі – а ехаць няма на чым* (Звязда. 29.06.2011); ***Вела**дарожка без дарожкі для **ровараў*** (Наша Ніва. 2.11.2011); *Частку дарогі да Будслава Тадэвуш Кандрусевіч адолеў на **ровары** разам з мінскай **веласіпеднай** пілігрымкай* (Наша Ніва. 11.07.2012); *...Члены Мінскага **роварнага** таварыства, журналісты і проста велааматары* (Звязда. 15.02.2013). *У Віцебску не адбылася запланаваная **роварная** экскурсія па гістарычных месцах горада... Арганізатар **вела**прабегу распавёў, што дагэтуль такія экскурсіі ладзіліся двойчы* (Народная воля. 13.09.2013).

Назоўнік **ровар** не падаецца пакуль у акадэмічных перакладных слоўніках. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" фіксуе гэтую лексему з пазнакай абл. (т. 4, с. 710). Але новыя слоўнікі ўжо адлюстроўваюць рэальную моўную сітуацыю. Так, слова **ровар** занатоўвае "Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы" А. Баршчэўскай і Л. Баршчэўскага (2010, с. 397) і акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (2012, с. 722). Таксама варта адзначыць, што і ў мастацкіх тэкстах назоўнік **ровар** ужываецца дастаткова актыўна: *Прывёз хлапец на **ровары** / Курэй і мёду збан* (Р. Барадулін); *На каштане лісце шуміць, быццам **ровар** едзе па асфальце* (У. Сцяпан). Пры паралельным існаванні дзвюх сінанімічных лексем варыянт **ровар** мае ўсё ж пэўную перавагу: усяго два склады, ён карацейшы ў параўнанні з назоўнікам *веласіпед*, а гэта значыць, што дзейнічае прынцып моўнай эканоміі. Таму няма ніякіх падстаў, каб не прызнаваць лексему **ровар** як факт сучаснай літаратурнай мовы. Тым больш што ёсць і слова **раварыст**, спалучэнне **роварная** *дарожка*. Гэта значыць, што назоўнік **ровар** можа без абмежавання выкарыстоўвацца сёння як у вусным, так і ў пісьмовым маўленні.

# 25 гадоў манаскага жыцця: інтэрв'ю



З мамай Ядвігай, татам Генрыхам і сястрой Наталляй падчас вечных шлюбаў

**Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB даў інтэрв'ю з нагоды 25-ай гадавіны манаскага жыцця.**

## Першыя міністранты ў вернутай святыні і нараджэнне паклікання

**– Ваша Эксцэленцыя, як і калі Вы адчулі пакліканне да святарскага жыцця?**

– Маё пакліканне нарадзілася раней, чым я пайшоў у Салезіянскую Кангрэгацыю. Наш смаргонскі касцёл вярнулі ў 1989 годзе, недзе вясною. Аднак пра тое, што касцёл дзейнічае, я даведаўся ў жніўні, калі вярнуўся з летняга адпачынку ад бабулі. У апошнюю нядзелю жніўня разам з матуляй мы пайшлі на вячэрнюю святую Імшу. Яна цэлебравалася на польскай мове, якую я не ведаў. Але адзінае, што я зразумеў, – гэта запрашэнне пробашча прыйсці да споведзі на пачатак новага навучальнага года. Памятаю, была серада – дзень, ахвяраваны ў нашай парафіі Маці Божай Вострабрамскай.

Паспавядаўшыся, я падышоў пацалаваць стулу, а тут пробашч пытае ў мяне: "Ці не хацеў бы ты быць міністрантам?" І, не дачакаўшыся майго адказу, загадаў: "Ідзі ў закрыстыю, там адзін хлопец ёсць, разам будзеце несці абраз Маці Божай Вострабрамскай". Адчыняю дзверы ў закрыстыю – і бачу свайго аднакласніка, сёння ксяндза Уладзіміра Кабака, салезіяніна, які, як і я, святкуе юбілей. Так мы з ім сталі першымі міністрантамі і са сваім пробашчам, ксяндзом Генрыхам Куляшэвічам, салезіянінам, пачалі сустракацца амаль штодня.

Асабліва ўзгадваю Свята Божага Нараджэння, калі на пастэрцы я спяваў ад алтара рэспансарыйны псальм. Тады, убачыўшы шмат людзей, што ўдзельнічалі ў набажэнстве, я доўга не мог распачаць спеў. І менавіта ў той момант з'явілася пачуццё, ды такое моцнае: я заўсёды хачу тут стаяць! З гэтай хвіліны, а было мне тады 15 гадоў, я пачаў вельмі сур'ёзна задумвацца, каб стаць святаром. Сёння з перспектывы 25 гадоў манаскага жыцця і 17 гадоў прэзбітэрату, я магу сказаць, што гэта і быў прызыў Пана ісці за Ім, а таксама момант нараджэння майго паклікання.

## Навіцыят салезіянаў і малітва пробашча

**– А чаму менавіта пакліканне да манаскага жыцця і чаму салезіяне?**

– Які шлях паклікання абраць: быць дыяцэзіяльным святаром ці ісці да салезіянаў? У мяне такога пытання не ўзнікала. Я проста, назіраючы за служэннем свайго пробашча, захапляўся тым, колькі сіл ён аддаваў моладзі, колькі розных акцый для нас рабіў! Менавіта гледзячы на яго, я адчуў перакананне: гэта тая сям'я, да якой я павінен далучыцца, каб працягваць харызму кс. Боска на маёй любімай Бацькаўшчыне.

Праз год разам з ксяндзом Уладзімірам Кабаком я паехаў у Польшчу, каб авалодаць моваю. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1991/1992 гг. я прайшоў навіцыят у салезіянаў. Тады маё пакліканне яшчэ больш узмацнілася. Да таго ж наш пробашч кожны дзень маліўся ў інтэнцыі пакліканняў, а калі мы сталі ўжо навіцыямі, а пазней клерыкамі, таксама ўспамінаў нашыя імёны, молячыся аб умацаванні на абраным шляху. Таму, акрамя Пана Бога, Які адорвае чалавека пакліканнем, акрамя Найсвяцейшай Панны Марыі – Успамогі Хрысціянаў, галоўнай патронкі Салезіянскай Кангрэгацыі, якая таксама дапамагла мне сваёй матчынай апекай, святога Яна Боска, майму жыццёваму выбару абраць манаскае жыццё і салезіянаў моцна паспрыяў мой першы пробашч – ксёндз Генрых Куляшэвіч.

## Слёзы радасці 18-гадовага юнака і манаскія абяцанні

**– Напэўна, Вы часта ўспамінаеце, як складалі свае першыя, а пазней і вечныя манаскія абяцанні?**

– Безумоўна, як сёння ўзгадваю дзень 22 жніўня 1992 года, калі разам з маімі аднакурснікамі я складаў свае першыя манаскія абяцанні ў Чэрвінску-над-Віслай (Польшча) на заканчэнне навіцыяту. На гэту ўрачыстасць прыбылі мае бацькі і сястра, а таксама і наш пробашч ксёндз Генрых Куляшэвіч. Дзень выдаўся тады сонечны і вельмі прыгожы. Нібы ўся прырода радавалася нашаму пасвячэнню Богу. За гадзіну перад урачыстасцю кіраўнік навіцыяту кс. Войцех Шульчынскі сабраў нас усіх у капліцы і заахвоціў у цішыні адараваць Найсвяцейшы Сакрамант, усведамляючы той важны крок, які здзяйсняем з адзіным жаданнем, каб гэта было на ўсё жыццё.

Пасля адарацыі ў суправаджэнні шматлікіх сабраных святароў-салезіянаў пад кіраўніцтвам тагачаснага варшаўскага інспектара Збігнева Маліноўскага мы працэсійна пайшлі ў святыню, дзе валадарыць у сваім цудоўным абразе Маці Божая Чэрвінская. У прэзбітэрыі для нас былі падрыхтаваныя сямнаццаць крэслаў, а пасярэдзіне стаяў кленчнік, на якім ляжалі, перавязаныя белай стужкай, тры кветкі – сімвалы законных шлюбаў: сланечнік – сімвал паслухмянасці, ружа – сімвал беднасці і лілея – сімвал чысціні. Пасля гаміліі наступіў сам момант складання манаскіх абяцанняў. Па прычыне таго, што я быў самым малодшым на курсе і ішоў сярод першых, то і шлюбы складаў першым. Сэрца білася моцна, голас дрыжаў не праз страх, а праз хваляванне, бо гэта быў для мяне вельмі важны і доўгачаканы момант. Слёзы самі цёснуліся з вачэй 18-гадовага юнака. Толькі вобраз Маці Божай і яе ласкавы погляд дадаваў моцы і радасці.

Пасля прынясення абяцанняў ксёндз-інспектар уручыў мне Салезіянскія Канстытуцыі і манаскі крыж, аб'яўляючы ўсім, што прымае мяне з радасцю ў шэраг салезіянаў ксяндза Боска.

Падобнае дзеянне паўтарылася праз шэсць гадоў – 2 жніўня 1998-га ў маім родным горадзе Смаргоні, калі на рукі тагачаснага інспектара ўсходняй акругі ксяндза Здзіслава Вэдэра я мог скласці назаўжды свае манаскія абяцанні як пацвярджэнне тых першых.

## "У каго ёсць Бог, у таго ёсць усё"

**– Раскажыце, калі ласка, якім быў пачатак Вашага святарскага і манаскага служэння?**

– Гэта былі вельмі прыгожыя і сапраўды радасныя моманты. Калі я ўспамінаю тыя часы, то заўважаю, як Бог Айцец, Маці Божая Успамога, як ксёндз Боска ніколі мяне не пакідалі і заўсёды суправаджалі. У навіцыяце, будучы самым маладым сярод аднакурснікаў, я вельмі перажываў: ці павераць мае настаяцелі ў тое,

# Тэст: абразы

**Май у Каталіцкім Касцёле – Марыйны месяц. Таму "Каталіцкі Веснік" падрыхтаваў новы тэст, прысвечаны Маці Божай.**

На тэрыторыі нашай краіны ёсць шмат цудоўных і прыгожых абразоў з выявай Марыі. А ці ведаеш ты, як яны выглядаюць і дзе знаходзяцца? Правер свае веды!

1. На фотаздымку – цудатворны абраз Каралевы Палесся. Як ён называецца?



**А.** Цудатворны абраз Маці Божай Палескай;
**Б.** Цудатворны абраз Маці Божай Лагішынскай;
**В.** Цудатворны абраз Маці Божай Іванаўскай.

2. Гэты цудатворны абраз знаходзіцца ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай у адным з аграгарадкоў Воранаўскага раёна, што на Гродзеншчыне.



**А.** Цудатворны абраз Маці Божай Тракельскай;
**Б.** Цудатворны абраз Маці Божай Гудагайскай;
**В.** Цудатворны абраз Маці Божай Беняконьскай.

3. У санктуарыі Маці Божай на Берасцейшчыне ўшаноўваецца цудатворны абраз ...



**А.** Маці Божай Берасцейскай;
**Б.** Маці Божай Нястомнай Дапамогі;
**В.** Маці Божай Балеснай.

4. У Гродзенскай катэдры знаходзіцца гэты цудатворны абраз Маці Божай. Яшчэ ён носіць назву Студэнцкай



# з біскупам Аляксандрам Яшэўскім SDB

што я сапраўды жадаю быць салезіянінам-святаром? Таму прасіў кс. Боска адарыць мяне супакоем і ўпэўненасцю.

Аднойчы апоўначы, святкуючы Новы 1992 год Эўхарыстыяй, мы па традыцыі выцягвалі думкі кс. Боска. Я быў арганістам, таму, суправаджаючы гэты момант спевам, разумеў, што той абразок, каторы застанецца, будзе маім. Тады я папрасіў кс. Боска не забыць пра маю просьбу. Калі я забраў апошні абразок, то прачытаў на ім наступныя словы: "Не бойся! У каго ёсць Бог, у таго ёсць усё! Кс. Боска". Тое ж самае Добры Бог і кс. Боска паўтарылі дакладна за год перад маёй біскупскай намінацыяй у Смаргоні, дзе я быў настаяцелем супольнасці. Сярод тысячы розных думак я таксама атрымаў менавіта гэтыя словы, якія сталі маім дэвізам у манаскім, а пасля і прэзбітэрскім жыцці. Таму і дэвізам свайго біскупскага служэння я абраў гэтыя ж самыя словы: "Cui Deus est, omnia sunt".

Наступны момант, які я ўзгадваю, – гэта жаданне быць айцом парафіяльнай супольнасці, а значыць, пробашчам. Дакладна пасля тыдня прэзбітэрскага пасвячэння мае настаяцелі скіравалі мяне ў Баруны замяніць там пробашча, каторы вярнуўся ў Польшчу. Колькі радасці было ў мяне "прабашчаваць" у парафіі, дзе ў верасні 1973 года мае бацькі прынялі блаславёнае сакраманту сужэнства, пасля, 1 верасня 1974 года, прынеслі мяне, каб ахрысціць, а пасля і маю сястрычку Наталлю ў студзені 1978-га. Таксама ў гэтай парафіі я ўпершыню прыступіў да сакраманту пакаяння і да Святой Камуніі. Менавіта там я рабіў свае першыя крокі як святар. Пасля былі шматлікія іншыя мясцовасці: Жодзішкі, Жупраны, Масква, Мінск, Смаргонь і цяпер Магілёўшчына. Бог ніколі не пакінуў, заўсёды верна суправаджаў і працягвае гэта рабіць.



## Падзяка Богу і любоў да людзей

**– 25 гадоў – гэта даволі вялікі перыяд. Як Вы на сённяшні дзень ацэньваеце той шлях, каторы прайшлі?**

– Асабіста не жадаю нічога ацэньваць, пакіну гэта Богу і аб'ектыўнасці людзей. Сам жа хачу ў цішыні і засяроджанасці перагледзець свой шлях, каб пераасэнсаваць яго, а таксама дзякаваць Богу і праслаўляць Яго за тое, што выбраў, адарыў шматлікімі і сапраўды вялікімі ласкамі, за тое, што прабачае мне мае слабасці і не адварочваецца ад мяне, ідзе побач і час ад часу Сам нясе на сваіх ласкавых руках.

**– Што было для Вас самым важным за гэтыя 25 гадоў?**

– Самае важнае – гэта людзі, якіх я спаткаў на сваім шляху, якім служыў і якім служу. Я люблю людзей і таму часта ўзгадваю словы Езуса Хрыста: "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40). Як бачна са слоў Збаўцы, у справе, калі робіш дабро чалавеку ў патрэбе, яго канфесійная прыналежнасць, палітычныя альбо асабістыя погляды не маюць значэння. У цэнтры чалавек і магчымасць яму дапамагчы. Гэта было і застаецца для мяне самым важным – служыць людзям і прынесці ў іх жыццё Бога. Асабліва ў жыццё дзяцей і моладзі – нашай сапраўднай будучыні!

## Не страціць і не заглушыць голас Бога

**– Што б Вы на дадзены момант пажадалі тым маладым людзям, якія ў сваім сэрцы адчуваюць пакліканне да святарскага і манаскага жыцця?**

– У першую чаргу хацелася б пажадаць моцнай веры, з якой будуць выходзіць сапраўдная адвага і давер, каб у сучасным свеце, дзе быць святаром і манаскай асобай з'яўляецца выклікам сучаснасці, ахвотна адказаць на запрашэнне Пана. Пан Бог клікаў, кліча і будзе клікаць людзей з любога, нават паводле нашага людскога разумення нечаканага асяроддзя. Пан Бог кліча адусюль. Жадаю маладым людзям, хлопцам і дзяўчатам, даверыцца Богу, а з уласнага досведу ведаю, што Яго ласкі будзе дастаткова, каб вытрываць на шляху паклікання і выканаць Яго волю ў нашым жыцці. Таму не загубіце і не дазвольце самім і іншым заглушыць той голас, якім вас кліча Бог, ахвотна адкажыце на Божы выбар, тым больш што жніво ў нашай краіне сапраўды вялікае, а работнікаў усё ж мала. Далучайцеся да нас, бо разам служыць больш радасна, прыгожа і больш паспяхова!

## Чаканні і жаданні біскупа

**– Ваша Эксцэленцыя, заканчваючы размову, хацелася б спытаць у Вас пра Вашы далейшыя планы і мары.**

– У мяне ёсць толькі адно жаданне: каб сапраўды выканаць волю Бога, Айца і Збаўцы. Адно чаканне: глыбей пазнаць самому і абвяшчаць іншым Сына Божага. Адна смага: насычацца асалодай і радасцю Духа Святога. Таму прашу ўсіх дапамагчы мне жыць і служыць для гэтага і толькі для гэтага!

Нарыканцы хачу падзякаваць усім без выключэння за падтрымку і добразычлівасць, якую я адчуваў і адчуваю на працягу ўсіх гадоў майго служэння як салезіянін, як прэзбітэр і цяпер як біскуп. Асаблівую падзяку я скіроўваю святарам, кансэкраваным асобам і вернікам, з якімі сустрэўся і сустракаюся кожны дзень, каб разам здзяйсняць місію Хрыста на нашай Бацькаўшчыне. Божа, аддзяч усім сваёй ласкай і кожнага благаславі!

*Гутарыла Ірына Радзевіч*



Падчас першых шлюбаў

# з выявай Марыі

**А.** Абраз Маці Божай Кангрэгацкай;
**Б.** Абраз Маці Божай Гродзенскай;
**В.** Абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі.

**5.** На фотаздымку Вы бачыце абраз, які знаходзіцца ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай. Што гэта за абраз?



**А.** Абраз Маці Божай Будслаўскай;
**Б.** Абраз Маці Божай Вострабрамскай;
**В.** Абраз Маці Божай Мінскай.

**6.** У якой мясцовасці нашай краіны знаходзіцца гэты цудатворны абраз Маці Божай Валадаркі Азёраў?



**А.** У Нарачы;
**Б.** У Браславе;
**В.** У Лепелі.

**7.** Культ гэтага абраза звязаны са шкаплерным набажэнствам. Ён знаходзіцца ў дыяцэзіяльным санктуарыі на тэрыторыі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці.

*Шкаплер – гэта два невялікія кавалкі сукна карычневага колеру, якія носяцца на шыі і з'яўляюцца знакам палатнянага шкаплера, каторы маюць законнікі. Праз яго Марыя дала чалавеку асаблівую дапамогу, вельмі патрэбную на штодзённым шляху да вечнага жыцця.



**А.** Абраз Маці Божай Гудагайскай;
**Б.** Абраз Маці Божай Гервяцкай;
**В.** Абраз Маці Божай Беззаганнай.

**8.** Як называецца абраз Маці Божай, каторым здаўна славіцца Магілёўшчына?



**А.** Абраз Маці Божай Бялыніцкай;
**Б.** Абраз Маці Божай Дрыбінскай;
**В.** Абраз Маці Божай Шклоўскай.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

Правільныя адказы на стар.16

# Каляндар на чэрвень



**Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Чэрвеньскія набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, карані якой ідуць з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта набожная практыка, праз якую мы выяўляем нашу падзяку за тую вялікую любоў, якой нас адорвае Езус Хрыстус. Гэта набажэнства складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і спеву або прамаўлення Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

**4 чэрвеня – Спасланне Святога Духа (Пяцідзясятніца).**

Гэта адно з самых старажытных святаў Каталіцкага Паўсюднага Касцёла. Дзень спаслання Духа Святога лічыцца пачаткам існавання Касцёла, днём яго нараджэння. Гэта быў хрост Касцёла, які нарадзіўся, выходзячы, каб абвяшчаць усім Евангелле. Калі Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненных языкоў, апосталы ўмацаваліся ў сваёй веры, атрымалі моц для сусветнага прапаведавання Евангелля. У гэты дзень людзі па традыцыі ўпрыгожваюць бярозавымі дрэўцамі касцёл, дамы, памяшканні, кватэры.

**11 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.**

Вера ў адзінага Бога ў трох асобах з'яўляецца адным з самых характэрных элементаў хрысціянства. У ніякай іншай рэлігіі гэтая таямніца не выступае прадметам веры. Існаванне Тройцы – дагмат нашай веры. Мы б ніколі не дайшлі да яго толькі чалавечым розумам. Пра гэта нам аб'явіў Езус Хрыстус. Асобнае свята ў гонар Святой Тройцы ў літургіі з'явілася параўнальна позна, у адзінаццатым стагоддзі. У 1334 годзе Папа Ян XXI распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл. Святы Руперт, ігумен з Отабойрэна (каля 1180 г.), ведае пра гэта свята і тлумачыць, чаму яно святкуецца ў наступную нядзелю пасля Пяцідзясятніцы: "Таму што неўзабаве пасля спаслання Святога Духа праўда Хрыста і хрост, які Ён загадаў удзяляць у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, былі распаўсюджаны па ўсім свеце. Таму гэтая ўрачыстасць з'яўляецца прыгожым закрыццём цыклу выратавання".

**15 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.**

Божае Цела – распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста, якая адзначаецца ў чацвер пасля свята Найсвяцейшай Тройцы, таму што ў чацвер Езус Хрыстус устанавіў сакрамант Эўхарыстыі (Вялікі чацвер). У цэлебрацыі ўрачыстасці Божага Цела Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён Сам прабывае са сваім народам. У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у катора́й Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

**23 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

У Каталіцкім Касцёле свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля адзначэння Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне. У літургічным календары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна – яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне стала завяршэннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы. Адмысловы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем сястры законнай Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце. У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. айцец Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста. Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 г.

**24 чэрвеня – Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля.**

Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным пракам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і выступае пракам новай фармацыі – Новага Запавету. Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Іардане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў Сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.

**29 чэрвеня – урачыстасць Святых Апосталаў Пятра і Паўла.**

Святыя Апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

# Беларусь у "святых" гербах: Мінск



**Май традыцыйна ў касцёле прысвечаны Найсвяцейшай Панне Марыі. На тэрыторыі сучаснай Беларусі прынамсі некалькі гарадоў маюць выяву Божай Маці ў сваіх гербах. Пачатковая ідэя распавесці пра іх разам у адным апісанні пасля кароткага роздуму падалася мне не самай удалай, бо выявы на гербах адрозніваюцца не толькі сваім зместам, але таксама і паходжаннем. Пачнём са сталіцы.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін з Росіцы*

Большасць крыніц падаюць як дату надання Магдэбургскага права Мінску 1591 год. Але гэта год пацвярджэнняназванага прывілею, а дадзены ён Вялікім Князем Літоўскім Аляксандрам Ягелончыкам быў амаль што на 100 гадоў раней – у 1499 г. З таго часу мы не маем апісання герба горада, але захавалася прыгожая легенда, якая распавядае, што па Свіслачы да дома мясцовых князёў прыплыла ікона Маці Божай. У ёй пазналі старажытны абраз з Кіева, што менавіта тады быў разгромлены крымскімі татарамі.




Апісанне аднаўлення Магдэбургскага прывілею з 1591 г. паказвае Маці Божую Унебаўзятую праз пастаць на гербе. Яе мы можам бачыць на шматлікіх пячатках горада. Іх дакладнае даследаванне дазволіла выявіць фігуры двух анёлаў, якія рукамі падтрымліваюць Маці Божую, а таксама двух херувімаў – знак прысутнасці славы Божай. Увогуле Марыя амаль што ніколі не знікала з гарадскіх пячатак і гербаў, але мянялася кампазіцыя выявы. Так на пячатках часоў Кацярыны II бачым, што Марыя велічна сядзіць на воблаку ў часе каранавання яе на каралеву неба і зямлі Святой Тройцай.



Сённяшняя выява Марыі на гербе спалучае дзве хрысціянскія традыцыі, бо сам сюжэт узяты з заходняга, лацінскага хрысціянства – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі. Усходняя, візантыйская хрысціянская традыцыя гэта свята называла Успеннем Святой Багародзіцы і на іконах паказвала такую падзею зусім інакш. Сама постаць Марыі і апошні дададзены элемент на гербе – тры зоркі на Яе плячах і галаве – зробленыя ва ўсходняй традыцыі. Яны азначаюць патрыйные дзявоцтва Багародзіцы: перад, у часе і пасля нараджэння Хрыста. Гэта старажытнае перакананне хрысціян пра цудоўны, дзівосны характар нараджэння Сына Божага, перададзенае ў іканаграфіі. Можам смела сказаць, што сённяшні герб сталіцы – экуменічны, ён злучае ў адно дзве вялікія хрысціянскія традыцыі: каталіцкую і праваслаўную.

# На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 чэрвеня** – *дзень нараджэння* і *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Леанард Ціханоўскі OCD, кс. Казімір Мараўскі OCD, кс. Вітольд Жэльветра**.

**2 чэрвеня** – *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Караль Бараноўскі**.

**3 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначаюць **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Андрэй Ядкоўскі, кс. Ян Рэйшэль**; *імяніны* адзначаюць **кс. Лешэк Вітвіцкі, кс. Алег Шпень**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Павел Астукевіч, кс. Валянцін Хведук, а. Анатоль Ярошка OFMCap, кс. Павел Калеснік, кс. Андрэй Казлоўскі, кс. Вітальд Лазавіцкі, кс. Ян Сарэла, кс. Здзіслаў Ведэр, кс. Віктар Вяліvіс**.

**4 чэрвеня** – *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Анатоль Парахневіч, кс. Генадзь Акалатовіч, кс. Алег Жураўскі SDB**.

**5 чэрвеня** – *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Андрэй Шчупал CSsR**.

**6 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначаюць **бр. Францішак Бука OFMCap, кс. Андрэй Врублеўскі CSsR**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Антоні Філіпчык, кс. Тадэвуш Качан**.

**7 чэрвеня** – *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Ежы Саковіч OSPPE**.

**8 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Павел Лазоўскі**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Міхал Стэцкевіч, кс. Ян Залога**.

**9 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*; *гадавіну біскупскага пасвячэння* адзначае <u>**біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**</u>, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Мар'ян Хаменя, кс. Станіслаў Краўчанка**.

**11 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Здзіслаў Пікула SDB**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **а. Лех Баханэк OFMConv, а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*, **кс. Пётр-Павел Кубел**.

**12 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Антоні Пажэцкі OFMConv**.

**13 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Антоні Ханько**; *імяніны* адзначаюць **кс. Генадзь Акалатовіч, кс. Антоні Клімантовіч, кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Антоні Адамовіч, кс. Ігар Анісімаў, кс. Антоні Ханько, кс. Антоні Філіпчык, кс. Антоні Грэмза, кс. Антоні Казлоўскі, кс. Антоні Абухоўскі, кс. Антоні Пажэцкі OFMConv, кс. Аляксандр Дулінец** *(Падсвілле)*, **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*, **кс. Аляксандр Махнач SChP**.

**14 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначаюць **кс. Уладзімір Гуляй, кс. Алег Шпень**; *імяніны* адзначаюць **кс. Валерый Даўгуль, кс. Валерый Спірыдон**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Лабан, кс. Віктар Субель, кс. Уладзімір Шкурынскі**.

**15 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Ігар Лашук**.

**16 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Ежы Ігнатовіч**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Кірыл Бардонаў**.

**17 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначаюць **кс. Раман Ялоўчык, кс. Ян Асіповіч SChP**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць <u>**біскуп Казімір Велікаселец**</u>, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі, <u>**біскуп Юзаф Станеўскі**</u>, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Юзаф Ганчыц, кс. Казімір Енджэйчак OMI**.

**18 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Вітальд Чурган**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Люцыян Дамброўскі SDB, кс. Здзіслаў Пікула SDB**.

**19 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Орша)*.

**20 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначаюць **кс. Міхал Ластоўскі, кс. Андрэй Зноска**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Аляксандр Севасцьяновіч**.

**21 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Аляксандр Адамовіч**; *імяніны* адзначаюць **кс. Віктар Гайдукевіч SDB, кс. Алойзы Шулік OFM**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Юзэф Гэнза CSsR**.

**23 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **а. Юрый Катовіч OFMCap** *(Докшыцы)*.

**24 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Ян Кучынскі**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае <u>**біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB**</u>, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі; *гадавіну біскупскага пасвячэння* адзначае <u>**біскуп Казімір Велікаселец**</u>, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі; *імяніны* адзначаюць **кс. Ян Крэміс, кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **а. Ян-Валерыян Херлік OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Ян Этэль SCJ, кс. Ян Гавецкі, кс. Ян Козак, кс. Ян Кучынскі, кс. Ян Кузюк, кс. Іван Огар SDB, кс. Ян Асіповіч SChP, кс. Ян Пяцюн, кс. Ян Пузына, кс. Ян Радзюк, кс. Ян Рэйшэль, кс. Ян Рамаңоўскі, кс. Ян Раманчук, кс. Ян Рушніцкі, кс. Ян Сарэла, кс. Ян Залога**.

**26 чэрвеня** – *імяніны* адзначае **а. Давід Мокры OFM**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначаюць **кс. Ежы Бартасевіч, кс. Павел Беланос, кс. Уладзімір Гуляй, кс. Андрэй Кеўлюк, кс. Ян Кучынскі, кс. Валерый Лісоўскі, кс. Антоні Абухоўскі, кс. Павел Паўлюкевіч, кс. Міхал Васількевіч**.

**27 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **кс. Павел Аляскевіч**; *імяніны* адзначаюць <u>**біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**</u>, **кс. Вадзім Сурвіла**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Вадзім Сурвіла**.

**29 чэрвеня** – *дзень нараджэння* адзначае **а. Пётр Ясевіч OFMCap**; *імяніны* адзначаюць **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*, **а. Павел Мажэйка OP, кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*, **а. Сымон Фарайтэр OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч OFMCap, а. Павел Падмышанін MIC, кс. Павел Адамовіч, кс. Павел Беразун, кс. Павел Ляліта OCD, кс. Пётр Пятрага, кс. Павел Слука MSF, кс. Пётр Фарына OCD, кс. Пётр Фраштэнга OCD, кс. Пётр Шарко, кс. Павел Шылак, кс. Павел Астукевіч, кс. Павел Беланос, кс. Павел Барысевіч, кс. Алег Дуль, кс. Павел Эйсмант, кс. Павел Гардзейчык, кс. Павел Калеснік, кс. Пётр Кубел, кс. Павел Лазоўскі, кс. Пётр Марцінец, кс. Павел Аляскевіч, кс. Павел Паўлюкевіч, кс. Павел Салабуда, кс. Павел Ствол, кс. Павел Шанчук, кс. Павел Урбан, кс. Пётр Вішнеўскі, кс. Павел Звяжынскі**; *гадавіну святарскага пасвячэння* адзначае **кс. Пётр Марцінец**.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*




## 3 чэрвеня

### Святы, які пагардзіў палітычнай карэктнасцю

**У сённяшнім звар'яцелым свеце ідэя гомасексуалізму ахоплівае чарговыя краіны. У адных ужо рэгіструюць партнёрскія саюзы асобаў аднаго полу, у іншых дазволілі ўсынаўленне. Але свет звар'яцеў не сёння. Пра гэта сведчыць гісторыя Караля Луангі, прадстаўніка чорнага кантынента ў пантэоне каталіцкіх святых.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін з Росіцы*

Караль, нараджэнец Уганды, маляўнічай краіны на беразе возера Вікторыя ў Афрыцы. Чалавек знатнага паходжання, кіраўнік свайго племені, з вялікім аўтарытэтам сярод сваіх аднапляменцаў. Нягледзячы на дастаткова малады ўзрост, ён рабіў імклівую палітычную кар'еру ў сваёй дзяржаве.

У другой палове 19 ст. у краіну Караля Луангі, ва Уганду, прыбываюць хрысціянскія місіянеры – напачатку англікане, а трошкі пазней каталікі. У гэты час таксама сваю місію праводзяць мусульмане. Мясцовыя жыхары з адкрытасцю прымаюць веру ў Хрыста, вучацца новым рэлігійным абрадам, спосабам малітвы, таксама з усёй душой прымаюць мараль-нае навучанне Евангелля. Яны адмаўляюцца ад розных грахоўных учынкаў і звычаяў, якія яшчэ нядаўна былі штодзённасцю ўсяго грамадства. У адрозненні ад іншых, мясцовы валадар не прыняў хросту, а стаў мусульманінам. Прычына больш чым банальная: маючы вялікі гарэм, ён не хацеў ад яго адмаўляцца. І хоць Караль заахвочваў падаронацсь да ўсіх, хто прымаў Хрыста як свайго Бога, нікога не пераследаваў за веру.

Ганенні пачаліся, калі ўладу атрымаў сын валадара. Даследчыкі да канца не высветлілі, ці быў ён проста самадурам, псіхічна хворым або надзвычай пажадлівым чалавекам. Новы валадар адразу распачаў пераследаваць і забіваць хрысціян незалежна ад канфесійнай прыналежнасці. Першымі загінулі група англіканаў і іх мясцовы біскуп. А пазней чарга дайшла і да каталікоў.

Так сталася, што двор Караля сапраўды зрабіўся месцам евангелізацыі: веру прымалі і міністры, і чыноўнікі, і звычайныя слугі. Караль у гэты час займае важную пасаду кіраўніка асабістых слуг валадара. У большасці гэта прыгожыя хлопцы і мужчыны. Манарх, выкарыстоўваючы сваю ўладу згодна са звычаем, што яму ўсё і ўсе падуладныя, змушае іх да садомскага граху. Больш за тое: менавіта гэты грэх валадар учыняе момантам богаадступніцтва – патрабуе зграшыць перад ім, каб даказаць вольнасць ад хрысціянскіх правілаў жыцця і даказаць лаяльнасць палітычнаму начальству. Адмова, са спасылкай на Евангелле Хрыста, настолькі раз'юшыла валадара, што распачынаюцца крывавыя ганенні. Апісанні жахлівыя: поўны набор сродкаў прыніжэння і ламання чалавека – адсячэнне рук і ног, выразанне частак цела, пасаджэнне на кол, спаленне жыўцом.

Караль разам з іншымі прымае смерць праз спаленне жыўцом. Сіла яго веры была такой неймавернай, што нават у вязніцы, чакаючы пакарання, ён здолеў схіліць у веру некалькі сукамернікаў. Паміраючы, ён падбадзёрвае сваіх паплечнікаў: "Праз некалькі хвілін мы з вамі сустрэнемся ў раі!"

Караль – адважны чалавек, які для Хрыста не пашкадаваў свайго шляхетнага паходжання, чыноўніцкай пасады, кар'еры, сваёй маладосці і нават жыцця. Яго мучаніцтва праслаўляюць разам каталікі і англікане. Сёння ў краіне Караля, ва Угандзе, каля 5 мільёнаў хрысціянаў.

## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Шчыра віншуем **ксяндза-пробашча Яцэка Хутмана** з 45-годдзем з дня нараджэння, якое ён адзначае 29 мая!*

*Жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, багатага плёну на Божай ніве!*

*Сардэчна дзякуем за ахвярную працу, за адданасць цудоўнаму дару святарства. Сіл Вам для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, адкрытых людскіх сэрцаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне парафіі нараджэння святога Яна Хрысціцеля ў Камаях***





## Віншуем!

*Шаноўнаму **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды юбілейнага дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Жадаем Божага блаславення на кожны дзень святарскага служэння, Маці Божая няхай чувае кожны дзень у кожнай справе, а Дух Святы хай адорвае здароўем, радасцю і супакоем!*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў (Гродзенская дыяцэзія)***

## Віншуем!

*Дарагому **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды Дня нараджэння дасылаем букет найлепшых пажаданняў: няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, а побач хай будуць толькі зычлівыя людзі! Жадаем шмат сіл, апекі Маці Божай, моцнага здароўя!*

***З любоўю, мама, сястра Ірына, брат Дзмітрый, пляменнікі Юля, Насця, Дар'я, Дзмітрый, Мілана***



## Хвала Хрысту!

*14 мая – Дзень нараджэння ў пробашча нашай парафіі **ксяндза Мікалая Ціхановіча**, а 19 мая – гадавіна святарскага пасвячэння. 3 мая адзначыў гадавіну святарскага пасвячэння **ксёндз-вікарый Іван Кароткін**. З гэтай нагоды ад шчырага сэрца віншуем іх і жадаем Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, моцнага здароўя, душэўнага спакою, аптымізму, асвячальнай ласкі Духа Святога, апекі і дапамогі Маці Божай Падхорнай!*

*Дзякуем нашым святарам за адданую працу ў парафіі, за шчырую малітву і за абвяшчэнне Божага слова!*

***Вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Віншуем!

*15 мая адзначае гадавіну святарскага пасвячэння канцлер Віцебскай дыяцэзіі, галоўны рэдактар "Каталіцкага Веснікa" **ксёндз Віктар Місевіч**. 18 мая – **ксёндз Аляксандр Рагіня**, які працаваў у нашым касцёле, а зараз служыць у дыпламатычнай місіі ў далёкай Афрыцы (Чад). А 3 мая ў яго яшчэ і імяніны.*

*Шчыра віншуем нашых дарагіх ксяндзоў з гэтай нагоды! Мы вельмі рады, што мелі магчымасць разам з Вамі маліцца да Пана Бога. Няхай Ваша вера, Вашае жыццё прыносяць добры плён на Божай ніве! Сардэчна дзякуем за ахвярную працу, за адданасць цудоўнаму дару святарства. Няхай Вашы бацькі і родныя заўсёды будуць пад апекай Маці Божай і Езуса Міласэрнага!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем!



*З нагоды Дня святара (30 мая ) і Дня народзін (31 мая) віншуем віцэ-рэктара Пінскай духоўнай семінарыі ім. св. Тамаша Аквінскага **ксяндза Адама Дынака**!*

*Шчыра жадаем Вам, ксёндз Адам, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння Богу і людзям. Няхай Святы Дух напаўняе Вас сваім святлом, добры Бог хай блаславяе, а Маці Божая няхай атуляе Вас сваёй любоўю!*

*Дзякуем за працу ў нашай парафіі! Мы памятаем Вас і молімся ў Вашай інтэнцыі!*

***Вернікі парафіі святога Юзафа, г. Крупкі***

## Шчыра віншуем!

*Вернікі парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску віншуюць **ксяндза Адама Дынака** з Днём нараджэння!*

***Ад усяго сэрца Вас віншуем***
***З днём нараджэння, ксёндз Адам!***
***Не думайце, што дні мінулі,***
***І засталіся сам-насам.***
***У кожным момансе мы помнім,***
***Пра Вас і Вашае цяпло.***
***Няхай Вас Бог узнагародзіць***
***І ў жыцці дае дабро!***



## Віншуем ксяндза Аляксандра Барана з Днём нараджэння!



*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Прыміце нашы шчырыя пажаданні здароўя, душэўнага камфорту, плёну ў святарскім пакліканні і працы. Няхай Пан Бог блаславіць усе Вашыя планы, дарогі і справы, хай Пан Езус праступе шляхі, накіроўвае думкі, словы і ўчынкі, а Панна Марыя няхай трымае Ваш жыццёвы шлях пад сваёй апекай, пра што і мы нястомна просім у нашых сціплых малітвах!*

***Парафіяне касцёла святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*1 мая – гадавіна святарскага пасвячэння, а 26 мая – Дзень нараджэння ў **ксяндза Эдварда Нарадоўскага**.*

*Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага з вёскі Прошкава Глыбоцкага раёна сардэчна жадаюць ксяндзу Эдварду моцнага здароўя, плёну ў душпастырскай дзейнасці, дапамогі і апекі ўсіх Святых на нялёгкім святарскім шляху! Мы, удзячныя парафіяне, шчыра молімся за ксяндза Эдварда і жадаем яму Божых ласкаў на кожны дзень жыцця!*



## Віншуем!

*Шчыра віншуем **ксяндза Генадзя Добрука**, які раней працаваў у нашай парафіі, з Днём нараджэння (26 красавіка)!*



*Жадаем Вам, ксёндз Генадзь, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, аптымізму, безупыннай надзеі, поспехаў у душпастырскай дзейнасці!*

***З павагай, вернікі Ідолтаўскай парафіі***

## Паважаны наш айцец Віталь Серко!



*Віншуем Вас з Днём нараджэння! Сардэчна і ад усёй душы, ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, светлай радасці, душэўнага спакою, здзяйснення мараў і задумак, вытрымкі ў пакліканні, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай агеньчык, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць яркім полымем і асвячае Ваш святарскі шлях! Няхай Маці Божая, Якая даручыла ў вашыя рукі свайго сына, абараняе Вас мацярынскай любоўю і ахінае ад нябяспекі сваім нябесным плашчом!*

*Дзякуем Вам за ваш клопат, за ласку, за сардэчнасць і дабрыню, за малітвы і за навуку любіць Бога і бліжніх!*

***Сям'я Мураўёвых, Людміла Куцель і Лена Дубінец (г. Шчучын)***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Вернікі лужкоўскай парафіі Арханёла Міхаіла вельмі радыя павіншаваць свайго пробашча **ксяндза Міхаіла Татарэнку** з 12-й гадавінай святарскай працы, якую ён адзначае 15 мая.*

*Мы шчыра ўдзячныя Пану Богу, што ўжо сем гадоў, шаноўны ксёндз Міхаіл, Вы ведзяце нас дарогай Хрыста, дарогай праўды, веры, любові і еднасці. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас за адданую працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за мудрыя казанні і за добрае сэрца! Няхай Святы Дух заўсёды падтрымлівае, кіруе і беражэ Вас!*

*Шчыра дзякуем і нізка кланяемся за Ваша служэнне Богу і людзям!*

***Вернікі з вёскі Лужкі (Шаркаўшчынскі раён)***



## Шаноўны ксёндз Андрэй Зуй!

*У маі з нагоды 10-гадовага юбілею святарства складаем Вам сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, Божай радасці, супакою, святла Духа Святога і няспыннай апекі Панны Марыі!*



***За крокам крок у невядомасць***
***Не бойцеся крочыць Вы штодня,***
***Бо чуеце побач Божы голас:***
***"Ідзі за Мной, Я – моц твая!"***
***Не будзе лёгка так, напэўна,***
***Яму даверце ўсё тады.***
***І ў глебу кінутае зерне***
***У час жніва аддасць плады.***
***Бог патрабуе вашы рукі,***
***Вачэй запалу і агня,***
***Каб праз малітвы шчырай гукі***
***З ім чалавека паяднаць.***
***А сваё "так" на заклік Пана***
***Павінны мужна паўтараць,***
***Бо Ён папросіць ўдзень і рана:***
***"Ідзі за Мной, Я – моц твая!"***



***З павагай і любоўю, вернікі касцёла св. Яна Хрысціцеля з вёскі Гарадзішча (Докшыцкі раён)***



## Хвала Хрысту!

*Мне 72 гады. Ужо пяць гадоў я чытаю "Каталіцкі Веснік". Чытаю з захапленнем сама і знаёмлю з газетай сваіх блізкіх. Кожны артыкул для мяне вельмі цікавы і важны, бо з газеты ведаю, як жыве наша Віцебская дыяцэзія. Некаторыя артыкулы бываюць настолькі кранальнымі і радаснымі, што не абыходзіцца без слёз.*

*Вялікая падзяка **рэдактару і ўсім супрацоўнікам газеты "Каталіцкі Веснік"** за працу! У сваіх малітвах я памятаю пра вас.*

***З павагай, Анэля Кашкур, в. Рачнёва (Мёрскі р-н)***

# Як варта ставіцца да бацькі, калі ён алкаголік?

*"Хвала Хрысту! Падкажыце, што рабіць, калі няма сіл і жадання размаўляць з маім бацькам-алкаголікам, які зрабіў шмат дрэннага для сям'і?"*
*Павел*

**На пытанне адказвае ксёндз Ян Раманоўскі:**

– Калі мы пытаем пра тое, якімі павінны быць нашы адносіны да іншага чалавека, узгадваецца фрагмент Евангелля паводле Лукі. Вучоны ў праве (кніжнік) запытаў у Езуса, што трэба зрабіць, каб атрымаць жыццё вечнае. Хрыстос у сваю чаргу прыгадаў запаведзь любові: любіць Бога ўсім сэрцам, усёй душой, усім розумам сваім, а бліжняга свайго, як самога сябе (пар. Лк 10, 25-29). У гэтым кантэксце на пытанне, хто з'яўляецца маім бліжнім, Езус адказвае пры дапамозе прытчы пра добрага Самараніна, паказваючы, што кожны чалавек, якога мы сустракаем на нашым жыццёвым шляху, з'яўляецца нашым бліжнім, нашы адносіны з ім павінны характарызавацца любоўю, якой нас навучае і да якой заклікае Збаўца (пар. Лк 10, 30-37).

Аднак бываюць такія сітуацыі, напрыклад, узгаданая вышэй, калі па-сапраўднаму вельмі цяжка захоўваць запаведзь любові ў адносінах да блізкага нам чалавека, які зрабіў вельмі многа зла і крыўды для іншых і, у першую чаргу, для сваіх родных. Як быць у такой сітуацыі?

Па-першае, заўсёды трэба памятаць, што алкагалізм з'яўляецца хваробай, якая ў апошні час вельмі моцна праяўляецца ў нашым грамадстве. Многія сем'і церпяць, калі з'яўляецца гэтая праблема. Адносіны паміж блізкімі развальваюцца, пачынаюцца пастаянныя канфлікты, звады. Надта часта, на жаль, даходзіць да прымянення фізічнай сілы. У такіх сітуацыях чалавек, які трапляе ў алкагольную залежнасць, патрабуе дапамогі спецыялістаў. Аднак у большасці выпадкаў такія асобы не хочуць прызнаць, што ім патрэбная дапамога і неабходна нешта змяніць у сваім жыцці. Вельмі складана дапамагчы гэтым людзям, бо яны не бачаць або не хочуць бачыць праблемы. Такім чынам нічога не змяняецца, а часам, наадварот, становіцца яшчэ горш. Вядома, што можна гаварыць пра прымусовае лячэнне гэтага чалавека, якое таксама з'яўляецца праяўленнем таго, што ён для нас неабыякавы, і таго, што мы хочам дапамагчы дадзенай асобе, асабліва калі жывём разам пад адным дахам.

З іншага боку, вельмі часта алкагалізм становіцца прычынай разбітых сем'яў, нянавісці, праклёнаў паміж блізкімі. Вядома, што трэба быць рэалістам і, сказаць праўдзе, надта цяжка часам прабачыць нават блізкаму чалавеку, які зрабіў многа шкоды для сваёй сям'і.

Часта сустракаемся з сітуацыямі, калі дарослыя дзеці на працягу свайго жыцця трымаюць крыўду на сваіх бацькоў, якія мелі або маюць праблемы з алкагалізмам. Як хрысціяне мы і ў такой сітуацыі павінны памятаць пра запаведзь любові, да якой нас заклікае наш Збаўца, пра Божую запаведзь, якая нам гаворыць аб павазе да нашых бацькоў, аб прабачэнні іншым так, як і мы просім аб прабачэнні нашых правінаў у малітве "Ойча Наш..." Сапраўды, гэта не так лёгка, але гэтаму нас вучыць Езус: любіць свайго бліжняга, усім сэрцам прабачаць яму. Таксама і ў сітуацыі з бацькам, які зрабіў многа крыўды для сваёй сям'і праз алкагалізм. А дапамогай у такой справе нам можа паслужыць малітва за гэтага чалавека, ахвяраванне святой Камуніі ў яго інтэнцыі, пілігрымкі, а таксама іншыя рэлігійныя практыкі. І яшчэ малітва за сябе аб дары прабачэння, з якім, можа, не заўсёды бывае так лёгка, але якое з'яўляецца праяўленнем сапраўднай хрысціянскай любові, да чаго нас заклікае Езус.





# Што думае ксёндз пра войска?

**Не так даўно мне пазваніў адзін малады хлопец, якога ведаю з часу майго паслугавання ў адной з парафій Віцебскай дыяцэзіі.**

**кс. Віктар Місевіч**

Вітаемся. "Як пажываеце, ойча?" – звычайнае пытанне, што задаюць на пачатку размовы. Я таксама запытаўся, як ідуць справы. Хлопец скончыў ВНУ, працуе, дапамагае бацькам. Усё як ва ўсіх. І далей кажа: "А мяне ваенкамат ужо шукае. Хочуць у войска забраць". "І што ты? Хочаш ісці служыць?" – пытаюся. У адказ чую: "Не, не хачу". Ну, зразумелая справа, думаю. Не хочацца хлопцу траціць час. Ваенная муштра, магчыма, дзедаўшчына – у думках праносяцца варыянты адказу на маё наступнае пытанне.

"Дык чаму не хочаш?" – пытаюся. Адказ хлопца прыводзіць мяне ў лёгкае здзіўленне. Ён кажа: "А там Імшы няма, там нельга хадзіць у касцёл". Мы паразмаўлялі яшчэ пэўны час, але гэты адказ маладога чалавека не дае мне спакою ўжо не адзін дзень.

Зразумела адно: у Беларусі вырасла пакаленне моладзі, якое не ўсведамляе свайго нармальнага штодзённага жыцця без малітвы і духоўнасці. Мяне як святара гэта не можа не радаваць. Тысячы маладых хлопцаў, тысячы дзяўчат у Беларусі любяць і хочуць хадзіць у касцёл. Малітва і сакраманты – гэта для іх, як ежа і пітво. Гэта частка іх саміх. І калі ў большасці сфераў грамадскага жыцця кожны грамадзянін можа заспакоіць свой духоўны голад, наведаўшы найбліжэйшы касцёл, то беларуская армія такой магчымасці католікам не дае. Калі я памыляюся, няхай мяне хто-небудзь паправіць.

> **"Чаму войска павінна быць ізаляцыяй ад духоўнага жыцця?"**

На маю думку, надышоў час, калі беларускія біскупы і беларускае вышэйшае ваеннае кіраўніцтва павінны абмеркаваць пытанні духоўнай паслугі святароў сярод беларускіх салдат-католікаў. Чаму войска павінна быць ізаляцыяй ад духоўнага жыцця? Я не бачу ніякіх рацыянальных аргументаў за гэта. Каталіцкая дактрына ніяк не супраціўляецца вайсковай дактрыне. У многіх краінах існуюць вайсковыя капеланы дзеля забеспячэння духоўных патрэбаў вайскоўцаў. Чаму Беларусь тут выключэнне? Пяць святароў у Віцебскай дыяцэзіі выконваюць сваю святарскую паслугу ў турмах Оршы, Віцебска і Глыбокага, евангелізуючы сярод асуджаных, а сярод вайскоўцаў такой паслугі не адбываецца. Ці ж салдат не патрабуе духоўнай падтрымкі? Ці яму нельга абвяшчаць Божае Слова і карміць яго Хрыстовым Целам?

Усе ведаюць папулярнае выслоўе: "У здаровым целе здаровы дух". Але я перакананы, што любы камандзір таксама выдатна ведае, што на полі бою перамагае не толькі і не столькі зброя. Перамагае моцны дух. Перамагае чалавек з высокай маральнасцю і глыбокай матывацыяй. Хтосьці можа запярэчыць, маўляў, дастаткова ў войску псіхолагаў. Не пагаджуся. Для салдат-атэістаў, калі такія ёсць, можа, і дастаткова пагутарыць з псіхолагам. Для салдата-верніка важна мець кантакт са святаром, мець магчымасць прыступіць да споведзі і прыняць Св. Камунію.

Я добра разумею, што да паўнавартасных вайсковых капеланаў беларуская армія яшчэ не гатовая. Але даць магчымасць салдатам-католікам сустрэцца са святаром кожную нядзелю ў ваеннай часці – гэта сёння надзвычай важна. Напэўна, тут можна знайсці выйсце, даўшы магчымасць салдатам свабодна наведаць найбліжэйшы да часткі касцёл кожную нядзелю. Існуе ж неяк армія Ізраіля, дзе салдаты наогул жывуць па хатах і ходзяць у войска, як на працу. Хаця мне асабіста больш падабаецца варыянт, калі душпастыр сам паедзе ў вайсковую частку і сустрэнецца там з католікамі.

Беларуская дзяржава патрабуе ад маладых хлопцаў вайсковай службы і мае на гэта права. Але беларускія грамадзяне згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і з Законам аб свабодзе рэлігіі маюць права на паўнавартаснае рэлігійнае жыццё. Ці не надышоў час ураўнаважыць гэтыя правы і абавязкі?

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Бугаева З.Н.** *(Лынтупы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Жусель** *(Петкунішкі)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ганна Жылевіч** *(Каменчане)*, **рух "Маці ў малітве" з Раготна**, **Зоя Калматовіч** *(Варапаева)*, **Тэрэса Лешчык** *(Сарокі)*, **Сафія Рагіня** *(Сарокі)*, **Сафія Юковіч** *(Сарокі)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Бугаева З.Н.** *(Лынтупы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **парафіяне з Браслава**, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Галіна Плюшчык** *(Стрэлкі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# За што касцёлам прысвойваецца тытул “Базіліка”?

*“У Беларусі ёсць некалькі малых базілік. За што касцёлы могуць атрымаць такі тытул?”*
*Ірына*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр, магістр тэалогіі, Ліда:**

– Дзякую за пытанне! Базіліка (з грэч. βασιλικός – каралеўскі, лац. basilica ) – у архітэктуры “выцягнуты, прамавугольны ў плане будынак, падзелены падоўжанымі радамі калонаў або слупоў на некалькі (звычайна 3 ці 5) частак (нефаў, наасаў), якія маюць самастойныя перакрыцці”.

У Старажытным Рыме базілікі выкарыстоўваліся як судовыя залы, рынкі і інш. Пазней базіліка стала адным з асноўных тыпаў хрысціянскіх храмаў, пашыралася ў візантыйскай, сірыйскай, раманскай і гатычнай архітэктуры, а таксама ў традыцыі Адраджэння і барока.

У Беларусі базілікі з'явіліся ў канцы XVI ст., пашырыліся ў XVII - XVIII стст. Найчасцей выкарыстоўваліся ў культавых хрысціянскіх будынках (каталіцкіх, праваслаўных і уніяцкіх), зрэдку – у ратушах (Слуцк), сінагогах (Слонім).



Існуе паняцце вялікай і малой базілікі. Вялікая базіліка (лац.: basilica maior) – тытул, які надаецца найвышэйшым па рангу каталіцкім базілікам. Чатыры з іх знаходзяцца ў Рыме: Латэранская базіліка, базіліка Святога Пятра ў Ватыкане, базіліка Святога Паўла за мурамі, базіліка Маці Божай Вялікай. Дзве базілікі ў Асізі: базіліка св. Францішка, базіліка Маці Божай Анёльскай.

Малая базіліка (лац.: basilica minor) – тытул, які надаецца адмысловым святыням. Гэты ганаровы тытул прысвойваецца Папам Рымскім у знак старажытнасці святыні, яе гістарычнай важнасці або значнасці як душпастырскага і пілігрымскага цэнтра.

Малая базіліка павінна адпавядаць наступным умовам:

- святыня адчынена на працягу ўсяго дня;
- з'яўляецца месцам атрымання асаблівых ласкаў праз заступніцтва апекуна ці апякункі касцёла (напр., аздараўленні, ласкі, навяртанні і г.д.);
- гістарычная каштоўнасць;
- месца асаблівага культу і пілігрымавання;
- дышпастырскія якасці (на працягу дня – няспынная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, споведзь на працягу ўсяго дня, часта адпраўляюцца святыя Імшы і набажэнствы);
- сталы гід у дадзеным касцёле.

Малыя базілікі ў Беларусі – гэта каталіцкія касцёлы, якім Папа Рымскі прысвоіў тытул малой базілікі.

**Тры беларускія каталіцкія святыні маюць тытул малой базілікі:**

**1. Базіліка Святога Францішка Ксаверыя ў Гродне (катэдра).** 15 снежня 1990 г. – дата прысваення тытула.

**2. Базіліка Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе (Нацыянальны Марыйны Санктуарый).** 11 чэрвеня 1993 г. – дата прысвоення тытула.

**3. Базіліка Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Пінску (катэдра).** 6 лютага 1996 г. – дата прысвaення тытула.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**28 мая 2017 г.**

***Ян 17, 1-11а***

Вучні Езуса паверылі ў тое, што Ён – Бог і заўсёды ў еднасці з Айцом. Езус аб'яўляў людзям таямніцы Бога, і яны прынялі Яго навуку. Слова Езуса знайшло адбітак у сэрцах і жыцці вучняў. Знаходзячыся ў еднасці – камуніі з Айцом, Езус робіць сваіх вучняў удзельнікамі Божай еднасці. Хрыстова навука перадаецца паміж вучнямі Езуса. Яны жывуць згодна з воляй Айца, якая і выяўляецца ў навуцы Хрыста. Гэта дарога да вечнага жыцця. А пачатак гэтага жыцця – у пазнанні Бога і прыняцці Езуса.

*Трэба, каб ты ў сваім духоўным жыцці памятаў, што Езус – гэта Жывы Бог. Твае адносіны з Езусам і месца, якое Ён займае ў тваім жыцці, – гэта не твае асабістыя дасягненні ці, тым больш, тваё захапленне. Гэта Бог, Які адкрывае для цябе і для тых, хто цябе акаляе, неба. Ты павінен пастаянна пераглядаць свае адносіны да навукі Хрыста, каб яны не закасцянелі. Жывы Езус прамаўляе да твайго сэрца тут і зараз. Ён вучыць цябе праз навуку Касцёла, праз Біблію, над якой разважаеш, праз натхненні Святога Духа. Езус запрашае цябе да еднасці з Богам і хоча, каб ты быў з Ім блізкі, як Ён з Айцом. Памятаючы пра гэтую еднасць, варта задумацца, ці дастаткова свядома ты прымаеш Цела Хрыста? Таксама не варта забывацца, што Бог запрашае да еднасці з Ім і іншых людзей. Ты не маеш права пагарджаць тымі, за каго Езус заплаціў сваёй дарагой крывёй. У тваіх пошуках вечнага жыцця трэба паставіць націск на пошукі Бога. Твая дарога да збаўлення – гэта пазнанне Бога і Яго волі адносна цябе. Трэба, каб ты ішоў дарогай сапраўднай еднасці з Богам, каб Ён вучыў цябе любові і ўмацоўваў гэту любоў у табе.*

**4 чэрвеня 2017 г.**

***Ян 20, 19-23***

Бог, Адзіны ў Тройцы, аб'явіўся свету. Святы Дух – гэта Жывы Бог, Які ёсць у сэрцах вернікаў. Ён дае сілы і мужнасці ісці дарогай збаўлення. Бог, Святы Дух, вучыць нас малітве. Ён прычына ўсіх нашых добрых натхненняў. Ён робіць нас здольнымі сказаць Езусу – Пан. Дух Божы пераменяе нашу малітву і робіць яе даспадобы Богу. Бог адорвае нас шматлікімі духоўнымі дарамі, дзякуючы якім наша духоўнае жыццё ўмацоўваецца. Гэта Святы Дух праз святароў перамяняе хлеб у Цела Хрыста, а віно – у Яго Кроў. Ён праз святароў адпускае нам нашы грахі.

*Варта ведаць вучэнне Касцёла пра Святую Тройцу. Пытанні і сумненні, якія, магчыма, узнікнуць, можна вырашыць у размове са святаром і чытаючы каталіцкую літаратуру (напрыклад, Катэхізіс Каталіцкага Касцёла). Разважаючы пра Асобу Святога Духа, ты можаш заўважыць новыя тэмы, звязаныя з Божым дзеяннем у тваёй душы. Трэба прасіць Святога Духа, распачынаючы малітву ці разважаючы пра штосьці важнае і сур'ёзнае, пра святло Яго мудрасці.*

*Ты маеш шмат дароў ад Бога, шмат розных талентаў, якія атрымаў з дня свайго нараджэння, шмат чаму навучыўся ад іншых людзей, натхнёных Богам. Нарэшце, Бог адорвае цябе рознымі харызматамі і духоўнымі дарамі для твайго дабра і для дабра іншых. Нельга, каб ты сумняваўся ў наяўнасці Божых дароў у табе або недаацэньваў іх. Трэба з удзячнасцю прымаць Божыя дары і развіваць іх. Не трэба таксама пагарджаць дабром, якім адорвае цябе Бог праз супольнасць Касцёла і праз тваіх братоў і сясцёр. Сапраўднасць жа і Божае прызначэнне дароў, якімі ты валодаеш, можаш пацвердзіць праз аўтарытэт Касцёла і свайго духоўніка.*

**11 чэрвеня 2017 г.**

***Ян 3, 16-18***

Бог Адзіны ў Тройцы Найсвяцейшай паклапаціўся пра лёс чалавека, Ім створанага. На працягу гісторыі збаўлення Бог аб'яўляўся людзям як Айцец, Які дае жыццё і абараняе сваіх дзяцей. У Хрысце Бог аб'явіўся нам як Той, Хто асабіста змагаўся за наша збаўленне і перамог у час Пасхі. Хрысціяне вераць у Бога Адзінага ў Найсвяцейшай Тройцы. Гэту і іншыя таямніцы Бог раскрые перад намі, калі мы пойдзем за Ім. І тады ў небе мы ўбачым тое, што вока не бачыла, і пачуем тое, што вуха не чула. Нам трэба ўхапіцца за працягнутую Божую руку і паверыць у Езуса Хрыста. Пайсці за Ім па дарозе да неба.

*Бог не хоча, каб ты прапаў. Гэта шатан падштурхоўвае твае думкі і раздзьмувае твае комплексы. Гэта ён лічыць, што ты нічога не варты і няма для цябе надзеі. Бог так моцна палюбіў цябе, што асабіста пра цябе клапоціцца. Ты створаны Богам і ўсё, што ёсць у табе добрае, – гэта ад Бога. Нават цела ці пачуцці, каторымі ты не заўсёды правільна карыстаешся і трапляеш у грэх, таксама створаны Богам. Бог хацеў, каб усё ў табе стала прыладай Яго любові. Нельга пагарджаць і ненавідзець сябе, сваё цела, свае пачуцці. Трэба ўсё гэта аддаць у збаўчыя рукі Хрыста. Ён дакранецца ласкай прабачэння і аздараўлення ўсяго твайго жыцця. Табе трэба пастаянна абмывацца Яго крывёю ў Сакраманце пакаяння, умацоўвацца Яго Целам у Эўхарыстыі і карміцца Яго словам у Біблії. Ты мусіш аддаць сваё жыццё ў рукі Святога Духа. І тады, слухаючы Яго натхненняў і ўмацаваны Яго дарамі, пераменішся ў здольнага любіць чалавека.*

**18 чэрвеня 2017 г.**

***Мц 9, 36-10, 8***

Езус – Добры Пастыр – з любоўю глядзіць на людзей. Пакінутым і разгубленым людзям патрэбна была Езусава навука. Свой пастырскі клопат Ён згодна з Божай воляй дзеліць з выбранымі Богам людзьмі. Яны будуць Яго памочнікамі. Трэба, каб Касцёл маліўся пра дар новых пакліканняў. Выбар дванаццаці апосталаў – гэта пачатак будавання новага абранага народу. На веры і вучэнні гэтых патрыярхаў Езус будуе Новы Ерусалім – святы Касцёл. Дзейнасць апосталаў – гэта працяг дзейнасці Езуса, гэта падрыхтоўка людскіх сэрцаў да прыняцця Божага Валадарства, г.зн. Божага прабывання ў іх.

*Трэба, каб ты адчуў на сабе позірк Хрыста. У тваім штодзённым жыцці табе вельмі неабходна затрымацца хоць бы на нейкі час, напрыклад, на Адарацыі і ўявіць, што Ён глядзіць на цябе. У Яго вачах любоў, клопат, спачуванне, надзея і ўмацаванне. Твой асабісты кантакт з Езусам і досвед Яго пастырскай любові дапаможа табе, як не раз ужо дапамагаў іншым, прыйсці з поўным даверу сэрцам да свята́ра.*

*Бог атуляе цябе сваёй любоўю праз свой Касцёл і яго пастыраў. Гэта моцная сувязь з біскупамі – наступнікамі апосталаў – з'яўляецца для цябе гарантыяй моцнай сувязі з Езусам. Гэта дарога Касцёла, на якой Езус адорвае цябе ласкай веры. Гэта еднасць з Касцёлам прывядзе да таго, што і ў будучым Езус будзе адорваць цябе шматлікімі дарамі.*

*Перад сваімі пастырамі Езус ставіць вялікія патрабаванні. І калі бачыш пастыра, які не дарастае да гэтых патрабаванняў, тым больш трэба ўзяць адказнасць за Касцёл і за тое згаршэнне, якое нараджаецца. Неабходна памятаць пра малітву аб святых святарах. І ты таксама для многіх з'яўляешся пастырам, які прыводзіць заблукалых авечак да адзінага Пастыра – Хрыста.*

*Разважанні падрыхтаваў* ***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.

## Як ты праяўляеш любоў да бацькоў?

Любоў кожнага з нас да сваіх бацькоў быццам сонейка, якое асвятляе ўвесь свет. А наколькі моцная і гарачая твая любоў да мамы і таты? У кожным праменьчыку сонца напішы, як ты праяўляеш любоў да сваіх бацькоў.




## Адгадай Божую Запаведзь

Якая з дзесяці Божых Запаведзяў наказвае кожнаму чалавеку шанаваць сваіх бацькоў? Даведацца пра гэта ты можаш, калі пераверуеш малюнак, на якім крэсла, зверху ўніз.



**Напішы, каторая гэта лічба Запаведзі.**

Прыгожа размалюй гэты малюнак каляровымі алоўкамі.

## Выкраслі непатрэбныя літары

Перад табой сказ, у якім расказваецца, што значыць шанаваць сваіх бацькоў. Але ў некаторых прыведзеных словах ёсць лішнія, непатрэбныя літары. Выкраслі іх і запішы правільны адказ, які атрымаўся.

**Шаняавацьтка ту і ймаму – зкначыць адлносіцца да іх з пжавагай, моцчна любуіць, слурхацца і быць ім шпчыра ўфдзячнымі!!!**

___

___

___

## Памаліся за сваіх бацькоў

Кожнае дзіця павінна маліцца за сваіх бацькоў. Ніжэй змешчана малітва за тваіх маму і тату. Прыгожа перапішы тэкст гэтай малітвы.

Твая задача - кожны раз перад тым, як класціся спаць, маліцца за сваіх бацькоў або сваімі словамі, або тэкстам гэтай малітвы.

**Дарагі Божа!**

**Я моцна дзякую Табе за маіх бацькоў і малюся за іх. Пасля Цябе, Госпадзе, я больш за ўсё ўдзячны ім. Навучы мяне шанаваць іх старанні і выказваць ім падзяку. Дай ім здароўе і ласку, неабходную для шчасця. Дапамажы, каб я заўсёды радаваў іх, любіў і паважаў.**

**Пачуй, Божа, маю малітву і благаславі маіх бацькоў і ўсю нашу сям'ю.**

**Амэн!**



## Знайдзі адрозненні

Любіць маму і тату – значыць дапамагаць ім. Хлопчык на малюнках таксама дапамагае маці, бо моцна яе любіць.

**Твая задача - знайсці адрозненні на малюнках і запісаць у кружочку, колькі іх.**



## Даведайся, да чаго заклікае нас апостал Павел?

Ты даведаешся, да чаго святы апостал Павел заклікае дзяцей, калі выканаеш наступнае заданне. Словы, змешчаныя ў фігурках, перамясці стрэлкамі ў таблічку ў правільным парадку, так, як гэта паказана на малюнку. Атрыманы адказ запішы ў таблічцы.




*Мастачка: Вольга Будкіна; ідэя: Ірына Радзевіч*

## Шаноўны ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч!

*Ад усіх вернікаў Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў дасылаем Вам віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні з нагоды гадавіны святарства!*

*Жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця, а любоў і супакой хай застаюцца назаўжды ў Вашым сэрцы!*

***Віншуем шчыра Вас са святам!***
***Хай Бог адорыць ласкаю багата,***
***А Маці Божая сваёй апекай***
***Заўсёды атуляе і навекі!***

***Святары, сёстры законныя, вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаем шчырыя віншаванні **ксяндзу Аляксандру Дуліну** з нагоды 15-годдзя са дня пасвячэння ў святары.*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Складаем Вам сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, супакою, Божай міласэрнасці, апекі Маці Божай, святла Духа Святога!*

*Вось ужо на працягу 15 гадоў Вы абвяшчаеце вернікам Божае слова і 5 гадоў служыце ў нашай парафіі. За гэты час для многіх з нас Вы сталі мудрым дарадчыкам, добрым слухачом, прыкладам веры і надзеяй на Божую дапамогу.*

*Няхай супольная малітва ўзнясецца да неба і будзе шчырай удзячнасцю за святара, якога нам паслаў Пан Бог! І добры Бог няхай дапамагае ў пашырэнні Божага Валадарства на зямлі, абвяшчэнні Божага слова і рэалізацыі паклікання. Няхай усе Вашы мары і задумкі здзяйсняюцца!*

***З вялікай пашанай, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля***

## Паважаны ксёндз Яцэк Хутман!

*Сардэчна віншуем Вас з юбілейным 45-ым Днём нараджэння, які Вы адзначыце 29 мая, а таксама з нагоды 20-годдзя святарства і 15-годдзя служэння ў камайскім касцёле св. Яна Хрысціцеля!*

*Мы дзякуем Пану Богу за ласку спаткання з Вамі, за тое, што можам прымаць да сваіх сэрцаў тыя словы, якія сыходзяць з Вашых вуснаў. Ад Вашых слоў у нашы душы ўліваецца цеплыня, супакой і вялікая еднасць. Хочацца жыць, супольна маліцца і часцей прыходзіць у дом Божы.*

*Вы спалучаеце ў сабе якасці пастыра, багаслова, філосафа, чалавека высокай духоўнай культуры, чулага, адкрытага. Сваімі ўчынкамі, адносінамі да людзей Вы прыцягваеце да сябе, да касцёла, спрыяеце духоўнаму ачышчэнню, асабліва дзяцей і моладзі. Дзякуючы Вашым намаганням наш Божы храм становіцца ўсё больш прыгожым і ўтульным.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы на кожны дзень святарскай паслугі, людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці!*



*Святар – святло,*
*Як шмат у гэтых словах*
*Аднолькавага:*
*Дабрыні, цяпла*
*І радасці, надзеі,*
*Што планета*
*Для будучыняў новых*
*расцвіла.*

*Святарскае жыццё –*
*Жыццё для іншых.*
*Жыццё, аддадзенае і Богу,*
*і людзям.*
*Жыццёвы шлях*
*Для новых пакаленняў.*
*Жыццёвы шлях, азораны*
*ў вяках!*



*Жыве касцёл,*
*Жыццём бруіцца,*
*Пакуль гарыць агнём душа*
*вялікага духоўна чалавека:*
*Пасланца Бога –*
*СВЯТАРА!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Камаях***

## Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы, вернікі дыяцэзіяльнага Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў, віншуем нашых шаноўных святароў, якія ў маі 2017 года адзначаюць гадавіну святарства:*
***ксяндза-пробашча Станіслава Мжыглуда** (22 мая);*
***ксяндза Уладзіміра Шыдлоўскага** (26 мая);*
***ксяндза Адама Квяткоўскага** (28 мая);*
***ксяндза Лешэка Вітвіцкага** – 25 гадоў (9 мая).*

*Дзякуем Пану Богу, што даў нам такіх духоўных настаўнікаў: шчырых, справядлівых, чулых, сціплых, сардэчных, вельмі працавітых. Любяць Вас і дзеці, і моладзь, і дарослыя, бо ўсіх Вы накіроўваеце па дарозе Божага жыцця. Цяпло свайго сэрца Вы аддаяце людзям. Дзякуем Вам за працу, за шчырасць і адданнасць.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў, каб на Вашым шляху сустракалася шмат адкрытых і шчырых сэрцаў. Няхай Маці Божая Валадарка азёраў заўсёды падтрымлівае і абараняе Вас, а радаснае святло Уваскрасроослага Хрыста асвячае Вашыя сэрцы нябесным святлом Божай Любові і Міласэрнасці! Няхай Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён!*

***Служэнне святара – вялікая адказнасць!***
***Супольна крочыць з Богам па жыцці***
***І пасвіць Божы статак, часам цяжка,***
***Але святар павінен з годнасцю ісці.***
***Ісці наперад цяжкасцям, турботам,***
***Ісці, калі пануе ў сэрцы неспакой,***
***Заўжды наперад крочыць разам з Богам,***
***Надзею запаліць у велічы святой.***
***І ажывіць надзеяй тыя сэрцы,***
***Што так шукаюць Бога кожны дзень,***
***Тады любоў бязмежная пральецца,***
***І кожны атрымае, што хацеў.***

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне з Браслава***

## Хвала Хрысту!



*1 чэрвеня адзначае Дзень нараджэння паважаны **ксёндз Эдвард Ахрамовіч**. Сардэчна жадаем Вам, дарагі ксёндз-пробашч, душэўнага спакою, здароўя, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, як мага больш адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў, Хрыстовай любові! Жадаем апекі Маці Божай, дароў Духа Святога!*

***Удзячныя вернікі парафіі святога Яна Хрысціцеля, Опса***

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*375295105172*2#**
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** ***363*[код пацвярджэння]#**
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

## Якія хрысціянскія атрыбуты знаходзяцца ў Вашым доме?

**Якія хрысціянскія атрыбуты знаходзяцца ў доме вернікаў на тым месцы, дзе адбываецца асабістая або супольная малітва, пацікавіўся "Каталіцкі Веснік".**

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**

- некалькі розных хрысціянскіх атрыбутаў – 82 адказы;
- абраз – 60 адказаў;
- крыж са свечкамі або без свечак – 21 адказ;
- алтарык – 21 адказ;
- фігуркі Езуса, Марыі, іншых святых – 8 адказаў;
- няма нічога – 8 адказаў;
- Біблія – 6 адказаў.

**Усяго – 206 адказаў.**



*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

**Правер сябе**

Правільныя адказы на тэст са старонак 8–9: 1–Б, 2–А, 3–А, 4–А, 5–А, 6–Б, 7–А, 8–А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3082

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.05.2017 г. у 09.47

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь